ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 19 13 мая 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

[2317]

НАТАТКІ З СЕМІНАРА ААН АБ ПРАБЛЕМАХ БЕЖАНЦАЎ

## ПАКУЛЬ ГРОМ НЕ ГРЫМНЕ...



*...Не трэба нам ніякіх законаў аб міграцыі і бежанцах. І няма чаго ім сюды дарма ездзіць і грошы траціць. Трэба пасадзіць чалавек пяць, якія Саюз развалілі і вінаватыя ў тым, што робіцца, і ўсе праблемы!*

**(З пачутага ў кулуарах семінара).**

Даведаўшыся, што прадстаўніцтва Арганізацыі Аб"яднаных Нацый у Беларусі праводзіць у Мінску семінар на тэму "Прававыя аспекты праблемы бежанцаў, правы чалавека і міграцыя", шчыра кажучы, падумала, што наўрад ці гэтую праблему сёння можна лічыць самай надзённай у адносна спакойнай Беларусі. Так, даводзілася бачыць у брудным адзенні людзей з вялікімі клункамі, якія не кленчылі – патрабавалі ў метро ці падземных пераходах грошы і называлі сябе бежанцамі, але, па-першае, чамусьці яны не выклікалі даверу, а, па-другое, было гэта даўно і толькі аднойчы. Што датычыцца сытых "асоб каўказскай нацыянальнасці", якія сустракаюцца ў Мінску паўсюль, то яны ну ніяк не нагадваюць людзей, якія трапілі ў бяду. Так што тых, каму з-за ўспыхнуўшых пасля распаду СССР шматлікіх узброеных і міжнацыянальных канфліктаў давялося пакінуць родныя мясціны і адправіцца ў чужы край на пошук лепшай долі, мы, беларусы, бачым у асноўным па тэлевізары. Менавіта таму і выклікала здзіўленне, што Вярхоўны Камісарыят ААН, Чырвоны Крыж і Чырвоны Паўмесяц, Міністэрства замежных спраў Швейцарыі і Савет Еўропы даслалі сюды сваіх прадстаўнікоў, каб дапамагчы нам вырашыць гэтую праблему. Аднак, як высветлілася ў ходзе семінара, ААН лічыць, што любую трагедыю лепш папярэдзіць, чым выпраўляць становішча, калі яна ўжо адбылася, а, па-другое, мы жывём не ў замкнёнай прасторы, і ў працэсе станаўлення незалежных і суверэнных дзяржаў некаторыя палітычныя сілы часта ставяць на першае месца нацыянальнае

(Заканчэнне на 3-й стар.).

З ПЕРШАЙ ХВАЛІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

## НАРКОМ ЯЗЭП ДЫЛА

Беларуская інтэлігенцыя XX стагоддзя... Адкуль яна ўзялася, у якіх умовах фарміравалася? Гэтыя пытанні турбуюць мяне ўжо больш за 20 гадоў, таму што ад рускамоўных даследчыкаў беларускай культуры, якія працуюць побач са мною, і ад даследчыкаў блізкага замежжа часта даводзіцца чуць, нібыта ў Беларусі не было нацыянальнай інтэлігенцыі аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, што да гэтага часу ў нас была толькі польская ды руская інтэлігенцыя. І такое сцвярджалася нягледзячы на тое, што імёны многіх беларускіх інтэлігентаў XIX стагоддзя ўжо вядомы не толькі навукоўцам, але і шырокім колам беларускамоўных чытачоў. Пакрысе я ўвесь час збірала факты аб жыцці і дзейнасці беларускай інтэлігенцыі з розных стагоддзяў.

І вось у лютым мне давялося наведаць у Саратаве дачку вядомага беларускага адраджэнца 20-х гадоў Ганну Язэпаўну Дыла, якая перадала Скарынаўскаму цэнтру ў Мінску невялікую частку асабістага архіва Язэпа Дылы, адзінага народнага камісара з Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі (існаваў з 1.1. да 3.2.1919 года), які застаўся ў жывых пасля пакут у сталінскіх ГУЛАГах і памёр 7 красавіка 1973 ў Саратаве.

З фрагментарных успамінаў Язэпа Дылы аб дзяцінстве, юнацтве і пазнейшым жыцці паўстае вельмі неардынарная асоба, фарміраванню якой спрыяла пэўнае інтэлектуальнае асяроддзе ў сям"і, Слуцкай гімназіі, дзе ён вучыўся, і ўвогуле ў горадзе Слуцку. Асяроддзе спрыяла развіццю яго прыроджаных здольнасцяў да літаратурнай, мастацкай, навуковай і нават грамадзянскай дзейнасці на карысць Радзімы, якую ён бязмежна любіў.

Язэп Дыла нарадзіўся 14 красавіка 1880 года ў сям"і пісара (сакратара) слуцкай гарадской канцылярыі Лявонція Дылы і Марылі Тодараўны з роду Куляшэвічаў. Яго бабулі і дзяды былі нашчадкамі слуцкіх рамеснікаў. Дзед па бацьку Язэп быў старастам цэха слуцкіх гарбароў, дзед па маці Тодар – старастам цэха шаўцоў.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ





Ён і сапраўды быў на рэдкасць светлы, квяцісты і не па-вясноваму цёплы гэты дзень 9 мая. І крыху сумны, журботны для ветэранаў. Як у той песні -- "свята са слязамі на вачах". 48 гадоў мінула з Дня Перамогі, як мала засталося іх -- салдат і камандзіраў, што адужалі тысячы кіламетраў фронта; партызан і падпольшчыкаў, што выстаялі, змагаючыся, доўгія, пакутныя і гераічныя гады фашысцкай акупацыі; працаўнікоў тылу, што дні і ночы напаўгалодныя і знясіленыя не адыходзілі ад станка і канвеера, вырабляючы зброю для фронта.

Як мала іх засталося, можна меркаваць па той кароценькай калоне на праспекце Скарыны ў Мінску, на чале якой да плошчы Перамогі крочылі 9 мая С. Шушкевіч і В. Кебіч. Але ж было свята! Свята ўдзячнасці таму пакаленню, якое ведае, што такое вайна з фашызмам.

**НА ЗДЫМКАХ:** ветэраны Вялікай Айчыннай вайны на сталічным праспекце імя Скарыны і на плошчы Перамогі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ*

## ЗАВЕРШАНА РАБОТА

**Як паведаміла прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 5 мая рабочая група Канстытуцыйнай камісіі завяршыла работу над праектам Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь. Яго плануецца ўнесці на разгляд чарговай 12-й сесіі Вярхоўнага Савета.**

**Дапрацоўка праекта ажыццяўлялася ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета ад 5 лютага гэтага года, у якой былі вызначаны асноўныя яе напрамкі. Аднак рабочая група не абмяжавалася толькі гэтым. Папярэдне былі разгледжаны заўвагі і прапановы, што паступілі ў Канстытуцыйную камісію ад народных дэпутатаў, грамадзян, а таксама дзяржаўных органаў, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы. На падставе ўсіх прапаноў складзена тлумачальная запіска, якая дапаможа дэпутатам на сесіі ўсебакова прааналізаваць тыя ці іншыя палажэнні праекта новай Канстытуцыі. Прадугледжваецца, што Вярхоўны Савет правядзе партыкульнае абмеркаванне, каб вызначыць свае адносіны да кожнага з іх і да праекта ў цэлым.**

*ВІЗІТ КАТРЫН ЛАЛЮМ"ЕР*

## ХОЧАМ У САВЕТ ЕЎРОПЫ

**Па запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і беларускага ўрада ў Мінску з афіцыйным візітам упершыню знаходзілася Генеральны сакратар Савета Еўропы Катрын Лалюм"ер. Як заявіла на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 3 мая, кіраўнік старэйшай палітычнай міжнароднай арганізацыі Захаду, мэта візіту — абмеркаванне пытанняў уступлення Беларусі ў Савет Еўропы і азнаямленне з палітычнай і эканамічнай сітуацыяй у рэспубліцы. Справа ў тым, што Беларусь, якая мае цяпер статус "спецыяльнага запрошанага", звярнулася ў СЕ з афіцыйнай просьбай аб уступленні ў гэту арганізацыю ў якасці паўнапраўнага члена. Як лічыць Катрын Лалюм"ер, Беларусь, якая знаходзіцца цяпер у пераходным перыядзе, мае рад цяжкасцей як палітычных, так і эканамічных.**

**"Я прыехала сюды, каб, наколькі гэта магчыма, паспрабаваць зразумець і ўбачыць вашы праблемы. Спадзяюся і ўпэўнена, што кантакты паміж Усходам і Захадам будуць развівацца. Народ Беларусі павінен выбраць свой шлях сам. Трэба зрабіць палітычны выбар дзеля будучыні", — сказала Катрын Лалюм"ер.**

**Беларусь імкнецца да супрацоўніцтва з Захадам, не разрываючы адносін з Расіяй, рэспубліка прымае дэмакратычныя рэформы, мае намер ісці да рынкавай эканомікі, і, нягледзячы на пагаршэнне эканамічнай сітуацыі, рэспубліка ўсё ж за апошнія два гады рушыла наперад — такія асабістыя ўражанні Генеральнага сакратара Савета Еўропы ад цяперашняга візіту.**

*ПА ПРАГРАМЕ ВОЗ*

## АД 15 КЮРЫ

**З 1 мая ў Гомелі і вобласці пачала ажыццяўляцца праграма Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Яна прадугледжвае даследаванні стану здароўя, радыеметрыю ўнутраных органаў і прадуктаў харчавання, ультрагукавое абследаванне шчытападобнай залозы. У першую чаргу брыгада ўрачоў агледзіць дзяцей, якія пражываюць на тэрыторыі з узроўнем забруджвання 15 кюры і жывуць у абласным цэнтры. Медыкі спадзяюцца, што маючае адбыцца абследаванне дапаможа выявіць захворванні на ранніх стадыях і забяспечыць своечасовае і эфектыўнае лячэнне.**

*РАШЭННЕ ЎРАДА*

## НАРАЧАНСКІ ВУГОР З ІСПАНІІ

**З 1985 года ў вадаёмы рэспублікі не праводзіцца выпуск лічынак вугра. І яго колькасць значна скарацілася. Гэтаму таксама садзейнічала захворванне вугра на рыбную нематоду. Каб захаваць гэты від рыбы ў рэспубліцы, урадам было прынята рашэнне выдзеліць 45 тысяч долараў на закупку 800 тысяч яго лічынак, пераважна ў Іспаніі. Лічынкі вугра плануецца выпусціць у Нарач і Дрывяты. У выніку праверкі, праведзенай Галоўрыбводам, рэспубліканскай і Браслаўскай ветэрынарнымі службамі, захворванняў вугра ў гэтым возеры не выяўлена. Акрамя таго, іхтыёлагі рэспублікі лічаць, што возера Дрывяты — самы спрыяльны вадаём для нагулу вугра.**

*МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА*

## ВЫДАТНАМУ ВУЧОНАМУ

У дзень 80-годдзя з дня нараджэння выдатнага вучонага Барыса Сцяпанава на будынку Інстытута фізікі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, які носіць яго імя, была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка. Пра вялікі ўклад Б. Сцяпанава ў развіццё фізічнай навукі, яго талент арганізатара гаварылі тыя, хто працягвае справу вучонага.

*У БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІМ КЛУБЕ*





**У апошні дзень красавіка ў Акадэміі навук РБ прайшло чарговае пасяджэнне клуба беларуска-амерыканскага ўзаемадзеяння ў галіне культуры, навукі, педагогікі. Адна з галоўных тэм сустрэчы была прысвечана жыццю і дзейнасці вядомага вучонага, дыпламата, які пэўны час працаваў у ЗША, Канстанціна Лукашова. З успамінамі выступіў перад прысутнымі ягоны сын Валянцін Лукашоў і адказаў на іхнія пытанні. У абмеркаванні гэтай і шмат якіх іншых тэм прыняў удзел і пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Х. Суорц. Адметнасць пасяджэнняў клуба ў тым, што пераважная большасць прамоўцаў у сваіх выступленнях аддае перавагу англійскай мове як рабочай.**

*ГЕРОЮ ЧАРНОБЫЛЯ*

## УДЗЯЧНЫЯ ЗЕМЛЯКІ

**На цэнтральнай плошчы горада Брагіна ўстаноўлены бюст адважнага пажарніка Васіля Ігнаценкі, які разам з шасцю сваімі калегамі загінуў у час тушэння пажару на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе. Не забылі людзі пра свайго земляка-героя.**

*ВАЛЮТА З МЮНХЕНА*

## СВАЯ, НАЦЫЯНАЛЬНАЯ

**Перавозку беларускай нацыянальнай валюты з Мюнхена, дзе яна друкуецца, у Мінск ажыццяўляе авіякампанія БелЭйр Лтд.**

**Дастаўка нацыянальнай валюты разлічана на 9 авіярэйсаў, за кожны перавозіцца 44 тоны грашовага грузу.**

*ЗДАРЭННІ*

## НАПАД НА ЯНА МАТУСЕВІЧА

**У Мінску здзейснены разбойны напад на кватэру свяшчэннаслужыцеля Яна Матусевіча, вядомага сваёй актыўнай дзейнасцю ў адраджэнскіх колах. З кватэры выкрадзены матэрыяльныя каштоўнасці, сам Матусевіч атрымаў цялесныя пашкоджанні і дастаўлены ў бальніцу. У здзяйсненні злачынства падазраваюцца "гастралёры" з Каўказа.**

*ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

## ПОЙДЗЕМ СВАІМ ШЛЯХАМ

**На пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі абмеркаваны праект Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі. Вызначана пазіцыя ўрада па канцэптуальнаму пытанню: аб шляхах ажыццяўлення прыватызацыі ў нашай рэспубліцы. Выраашана адмовіцца ад расійскага вопыту "ваўчарызацыі" прадпрыемстваў на карысць іх акцыяніравання. Па ініцыятыве прэм'ер-міністра В.Кебіча ў праект праграмы ўнесена палажэнне аб тым, што вызначэнне кошту асноўных і абаротных фондаў прыватызуемых прадпрыемстваў абавязкова павінна рабіцца ў цвёрдай валюце з наступным пераразлікам у нацыянальнай валюце па існуючаму курсу з улікам інтарэсаў працоўных калектываў і насельніцтва Рэспублікі Беларусь. З дапаўненнямі праект Дзяржаўнай праграмы быў зацверджаны. Вырашана вынесці яго на абмеркаванне чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СПОЎНІЛАСЯ 100 год з дня заснавання Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея, у якім было сабрана больш за 1 000 каштоўных экспанатаў. Самыя цікавыя з іх датычыліся Полацкай праваслаўнай епархіі. Музей быў ліквідаваны ў 1919 годзе, рэшткі ацалелых экспанатаў захоўваюцца ў абласным краязнаўчым музеі.

ГАРАДСКІ Савет Бярозы, што ў Брэсцкай вобласці, прыняў рашэнне часова забараніць пасяляцца ў гасцініцах, інтэрнатах і на прыватных кватэрах без дазволу раённага аддзела ўнутраных спраў усім, хто прыязджае з-за межаў Беларусі. Гэты крок выкліканы тым, што спекулянты і розныя крымінальныя элементы з былых рэспублік Закаўказзя, Малдовы і Украіны стварылі небяспечную атмасферу ў горадзе.

КАБ УСТАНАВІЦЬ тэлефон у сваёй кватэры, мінчаніну трэба чакаць каля 7 год, бо тэхнічныя магчымасці гарадскіх сувязістаў памяншаюцца. У 1990 годзе ў сталіцы было ўстаноўлена 31 590 тэлефонаў, у 1992 — 18 025, а на сёлетні год плануецца толькі 15 100. Усяго ж на тэлефон у Мінску чакаюць 96 687 чалавек.

У МІНСКУ адкрыты музей гісторыі медыцыны. 25 тысяч яго экспанатаў расказваюць наглядна і пераканаўча пра развіццё медыцыны ў Беларусі. Тут можна ўбачыць рэдкае аптэчнае начынне мінулых стагоддзяў, працы свяціл медыцыны.

З 70 мільярдаў рублёў, што знаходзяцца ў "панчохах" у жыхароў Беларусі, 60 — у беларускіх грашовых знаках. Гэта акалічнасць ды нядаўняе павышэнне заработнай платы вымагаюць павелічэння грашовай масы ў 5 разоў. Таму ў Расіі заказаны новыя партыі разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі.

У МАІ зноў "затанцавалі" цэны. На гэты раз усё пачалося з цукру, які цяпер каштуе не 180 рублёў за кілаграм, а 200. У сувязі з гэтым на 15—20 працэнтаў падаражалі некаторыя гатункі хлеба і хлеба-булачных вырабаў.

## НЕЗАГОЙНЫ БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ





**Чарнобыль... Сем гадоў назад уварвалася гэтае слова ў наша жыццё. І адразу перавярнула лёсы тысяч людзей. Тыя, хто яшчэ нядаўна араў зямлю, спраўляў вяселлі, радаваўся кусту бэзу, што распусціўся ва ўтульным кветніку, сёння раскіданы па свеце. Адны назаўсёды паехалі з абжытых мясцін і спрабуюць наладзіць свой быт ў іншай старане, другія — бадзяюцца па бальніцах, трэціх ужо прыняла матухна-зямля. Але ёсць і тыя, для каго родныя карані аказаліся мацнейшымі за небяспеку быць паражонымі радыяцыяй. Яны вярнуліся ў сваё жытло і вядуць звыклае жыццё. Чым абернецца для іх гэтая смеласць — пакажа час. Сем гадоў... І толькo нядаўна мы даведаліся, што кожны пяты беларус пацярпеў ад Чарнобыля, што парушаны генафонд нацыі, што чацвёртая частка нашай зямлі забруджана радыенуклідамі. А колькі яшчэ давядзецца зведаць...**

**НА ЗДЫМКАХ: разам з суседзямі вымушана была паехаць з роднай вёскі Уласы Хойніцкага раёна і Марыя КУЗЯКІНА. Але да гэтага часу сніцца ёй родны дом. І таму, як толькі надарылася магчымасць, зазірнула яна ў родныя мясціны; з гэтай вёскі ў Хойніцкім раёне людзі даўно выселены. І толькі птушкі засталіся вернымі свайму жытлу.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ПАКУЛЬ ГРОМ НЕ ГРЫМНЕ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

пытанне і, абараняючы інтарэсы свайго народа, лічаць магчымым парушаць правы прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. А між тым, у былым Савецкім Саюзе за межамі сваіх дыяспар пражываюць 70 мільёнаў чалавек, 4 мільёны беларусаў жывуць за межамі Беларусі, з іх 2 мільёны — на тэрыторыі СНД. Як сказаў у сваім дакладзе начальнік зводна-аналітычнага аддзела дзяржаўнай іміграцыйнай службы пры Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь Уладзімір Белазор, сёння ў Беларусі зарэгістравана 13 тысяч бежанцаў. (Але ж гэта — афіцыйная лічба, і далёка не кожны, хто прыбыў у Беларусь, спяшаецца заявіць пра сябе). Паток бежанцаў імкліва павялічваецца: толькі за тры месяцы 1993 года афіцыйна зарэгістравана тры тысячы чалавек. Зараз на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца каля 100 000 нідзе не прапісаных асоб, якія пражываюць часова, каля тысячы палітычных эмігрантаў з Эфіопіі і Афганістана і каля тысячы в'етнамцаў, якія скончылі працаваць на нашых прадпрыемствах па кантракту, але дамоў вяртацца не хочуць. Беларусь, як і іншыя дзяржавы СНД, адчула на сабе пяць хваляў бежанцаў: першыя паўтары тысячы перасяленцаў наша рэспубліка прыняла пасля пачатку канфліктаў у Нагорным Карабаху, Узбекістане, Сумгаіце і Баку, потым была Паўднёвая Асеція і Паўночны Каўказ, Прыднястроўе, Абхазія, Інгушэція... Зараз набліжаецца пятая хваля, якая можа з"явіцца для нашай рэспублікі сапраўдным дзевятым валам: бежанцы з Прыбалтыкі і Сярэдняй Азіі, дзе ўзмацняецца псіхалагічны ціск на рускамоўнае насельніцтва. Як паказваюць даследаванні дзяржаўнай міграцыйнай службы Беларусі і аналіз лістоў ад беларусаў, якія жывуць на тэрыторыях гэтых рэспублік, у Сярэдняй Азіі, напрыклад, "вольная і незалежная" прэса бясконца паўтарае, што калі адтуль паедуць усе "рускія", то ў рэшце рэшт будуць вырашаны праблемы жылля, быту, рабочых месцаў. У Прыбалтыцы абвастрылася праблема прымусовай эміграцыі з-за няведання мовы карэннага насельніцтва, і з пачаткам дзеяння закона аб грамадзянстве ў ролі апатрыдаў — асоб, страціўшых грамадзянства, у Латвіі можа апынуцца 160 тысяч беларусаў. А многія з іх лічаць Латвію сваёй радзімай і не адчуваюць сябе ні акупантамі, ні часовымі жыхарамі. Нельга не ўлічваць іх укладу ў эканоміку гэтай рэспублікі. Калі ж ім давядзецца пакінуць Латвію, то міграцыйны працэс можа набыць характар масавага выезду на тэрыторыю Беларусі, што, канешне ж, ускладніць сацыяльна-эканамічнае жыццё некаторых яе раёнаў. У Беларусі ж да гэтага часу не прынята міграцыйнае заканадаўства, якое змагло б рэгуляваць гэтыя некантралюемыя людскія плыні, што імкнуцца да нас. Адсутнасць міграцыйнага заканадаўства вядзе і да абвастрэння крымінагеннай абстаноўкі, якая і без таго не радуе.

Згодна статыстыцы, большасць з тых, хто прыязджае зараз з "гарачых кропак" на Беларусь, — гэта нашы суайчыннікі. Апынуўшыся ў цяжкім становішчы, людзі шукаюць выратавання на радзіме. А тут, гаворачы аб праблемах беларусаў блізкага замежжа, нярэдка папракаюць іх тым, што, маўляў, некалі пагналіся за "доўгім рублём", а зараз, калі стала "горача", дамоў заспяшаліся, дзе і без іх праблем хапае. Ды толькі тыя, хто так гаворыць, забываюцца пра былыя ўсесаюзныя размеркаванні ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі, якія закідвалі беларусаў і на далёкую Поўнач, і ў Сярэднюю Азію, і ў тыя ж Латвію з Эстоніяй, дзе, між іншым, многа чаго іх рукамі зроблена... Ды і калі мы сёння так многа і ахвотна гаворым пра адраджэнне сваёй рэспублікі, то чаму ж трэба выключаць з гэтага працэсу замежных беларусаў, якім неабыякавы лёс іх радзімы? Тым больш, што як бы мы ні ставіліся да праблемы, па самых сціплых прагнозах, у канцы гэтага года колькасць бежанцаў у Беларусі дасягне 20—25 тысяч. Што адбудзецца, калі спраўдзіцца такі несуцяшальны прагноз? Мяркуйце самі: на 1 красавіка ў службе занятасці рэспублікі зарэгістраваны 52 тысячы беспрацоўных. Чакаецца, што да канца года іх будзе 250 тысяч. Дадайце сюды унікальную ў сусветнай практыцы з"яву — эканамічных бежанцаў, якія як планава, так і стыхійна бягуць ад чарнобыльскай бяды і якіх неабходна забяспечыць жыллём, працай, медыцынскім і сацыяльным абслугоўваннем. А між тым, выдаткі на стварэнне толькі аднаго рабочага месца на сённяшні дзень складаюць у рэспубліцы ад аднаго да трох мільёнаў рублёў. "Тут сваім бы дапамагчы, не гаворачы пра бежанцаў", — скажа большасць з нас. Пасля гэтых лічбаў мімаволі паўстаюць у памяці карціны пагромаў інтэрнатаў для замежных рабочых, якія не так даўно адбыліся ў Германіі. Дзе рынак — там і канкурэнцыя...

Усё вышэй напісанае — толькі кароткі і няпоўны пералік праблем, пра якія гаварылася на семінары і якія ў бліжэйшы час лягуць на нашы плечы. Дзе выйсце? У прадстаўнікоў ААН сумненняў наконт гэтага не было: стварэнне міграцыйнага заканадаўства, здольнага рэгуляваць патокі прыязджаючых і выязджаючых з рэспублікі, пры ўмове, што яно будзе складзена дасканала і з улікам міжнароднага вопыту, здольна дапамагчы нам вырашыць нашы праблемы.

На працягу пяці дзён зацікаўленым асобам з міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі расказвалі аб характарыстыцы і тэндэнцыях міграцыі ў сучасным свеце, знаёмілі з міжнародным міграцыйным правам і асноўнымі прынцыпамі закона аб бежанцах. Пасол Рудольф Ваерсмюлер, каардынатар міжнароднай палітыкі па пытаннях бежанцаў Міністэрства замежных спраў Швецыі, расказаў аб прыкладзе нацыянальнай міграцыйнай працэдуры ў яго краіне і адказаў у перапынках паміж пасяджэннямі на пытанні вашага карэспандэнта.

— Спадар пасол, у чым асноўная мэта семінара: дапамагчы нам ці засцерагчы сябе ад масавага нашэсця з Усходняй Еўропы?

— Не скажу, каб Захад так ужо страшыла тое, што да нас раптам хлыне паток рускіх. Некалькі год таму ўсе нашы газеты былі запоўнены артыкуламі, дзе нас палохалі, нібыта мільёны рускіх хутка рынуцца ў Еўропу. Але мы, прафесіяналы, не верылі такім прагнозам і, як аказалася, мелі рацыю. Што датычыцца мэтаў семінара — 70 год паміж Усходняй і Заходняй Еўропай складваліся ненармальныя адносіны, людзі не маглі падарожнічаць, сустракацца, зносіцца. Зараз такая магчымасць з"яўляецца, і нам хацелася б, каб вы ўвайшлі ў міжнародны міграцыйны працэс з мінімальнымі выдаткамі.

— Ці могуць узнікнуць у Беларусі нейкія асобыя праблемы, звязаныя з тым, што яна — пагранічная рэспубліка?

— Так, гэта рэальна, такая сітуацыя ўжо фарміруецца на Украіне. Беларусь можа стаць "накапляльнікам", часовым прытулкам мігрантаў, бо ўсе транспартныя шляхі ідуць праз вашу рэспубліку, а Захад праводзіць вельмі цвёрдую палітыку ў адносінах да бежанцаў. Можа атрымацца, што яны пачнуць тут асядаць.

— Ці не маглі б вы зрабіць прагноз у адносінах праблемы бежанцаў на Беларусі?

— Сёння Беларусь — рэспубліка небагатая, але і не бедная, асабліва, калі параўнаць стан вашых гарадоў з Калькутай ці Бамбеем. І я думаю, што эканамічная сітуацыя ў вас абавязкова пачне паляпшацца і вы даволі хутка можаце выйсці на эканамічны ўзровень Польшчы, а пасля — Германіі і іншых еўрапейскіх краін. Але як толькі гэта адбудзецца (а я ў гэтым упэўнены), да вас адразу пачнецца паломніцтва з бедных краін, такіх, як Індыя ці Пакістан. Людзі будуць імкнуцца да вас таксама ж, як сёння — у развітыя краіны Захаду. Пасняшайцеся з заканадаўствам...

— Як вы лічыце, мы тут ужо асэнсавалі да канца сур"ёзнасць гэтай праблемы?

— Не, думаю, што не. Гэта яшчэ наперадзе.

Семінар скончыўся, і можна гаварыць аб выніках. Яго арганізатары і ўдзельнікі не раз шкадавалі, што спецыялісты і прадстаўнікі больш высокага ўзроўню выканаўчай і заканадаўчай улады не ўдастоілі сваёй увагай гэта мерапрыемства. Хацелася б звярнуць увагу на пастаянную ў ходзе дыскусій супярэчнасць: прадстаўнікі беларускага боку хацелі атрымаць гатовыя рэцэпты таго, як дзейнічаць у канкрэтных сітуацыях і выпадках, а прадстаўнікі ААН давалі агульную метадалагічную інфармацыю і былі недастаткова дасведчаныя аб спецыфіцы гэтай праблемы ў нашай рэспубліцы. Аднак, нягледзячы на гэта, абодва бакі прызналі семінар карысным і плённым. Шкада толькі, што нам па-ранейшаму для таго каб зазірнуць у твар сваім праблемам, патрэбны нехта збоку, у даным выпадку — ААН.

Гавораць, пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца. Якраз у дні, калі адбываўся семінар, над Мінскам прайшла першая веснавая навальніца. Здорава грымела, між іншым...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ПОШТЫ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# ДАВАЙЦЕ НЕ ЗГОРТВАЦЬ КРЫЛАЎ

**Гэтыя два лісты, якія прапануюцца ўвазе чытачоў, — маленькая часцінка лучнасці Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" са сваімі суродзічамі. Такіх лістоў-перазоваў шмат, па іх, магчыма, будучыя даследчыкі, як і па перапісцы з афіцыйнымі органамі, будуць вывучаць, як няпроста прыходзіла да народа ўсведамленне, што ён адзіны і непадзельны, што незалежная дзяржава і яе грамадзяне павінны дбаць пра сваіх суродзічаў, дзе б яны ні былі: у блізкай Літве ці ў далёкай Аўстраліі. Мяркую, праблемы, пра якія піша беларускі афіцэр з Іркуцка, не страцілі сваёй актуальнасці, бо і надалей застаюцца нявырашанымі не толькі для яго аднаго, а і для дзесяткаў тысяч іншых нашых вайскоўцаў, воляю лёсу раскіданых па абшарах былога Саюза. Пра гэта боль і клопат у іхніх лістах. Апошні па часе з іх ад Спаткая Леаніда, капітана Расійскай арміі, у якім ён на некалькіх старонках узнаўляе сваю перапіску з Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь, дасылае копіі афіцыйных адказаў, дзе гаворыцца аб "аб'ектыўных прычынах", што перашкаджаюць перавесці яго на службу ў Беларускае войска. Фармальна ўсё нібыта аргументавана, але мае асабістыя сімпатыі на баку і гэтага, і многіх іншых беларускіх афіцэраў, бо ад "аб'ектыўных прычын" у самога даўно выспеў бунт у душы і розуме.**

**У сваім лісце да Алега я не магу, на жаль, даць адказы на ўсе пастаўленыя ім, як мне ўяўляецца, балючыя пытанні. І таму гэтыя два лісты прашу ўспрыняць як запрашэнне зацікаўленых чытачоў да гаворкі-развагі пра тое, што людзей хвалюе, у чым яны хочуць разабрацца ў няпростай для іх сітуацыі пераходу ад таталітарнай імперыі да незалежнай Беларускай дзяржавы.**

**Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"**
**Яўген ЛЕЦКА.**

Дзень добры, шаноўны спадар Яўген!!!

Прывітанне з Іркуцка!! Вялікае дзякуй за запрашэнне на Сход беларусаў блізкага замежжа. На жаль, я не змог не толькі што прыехаць, але і паслаць прывітанне сходу. Чаму? Ну, мы людзі вайсковыя, тым больш ракетчыкі, і таму не заўжды можам рабіць тое, што хочацца. А як хацелася! Паслухаць сяброў, пагутарыць, а можа і выступіць, бо сапраўды набалелага многа. І перш за ўсё немагчыма ўявіць, хто мы: адшчапенцы, замежныя наёмнікі ці ўсё ж такі грамадзяне сваёй Айчыны? І зноў жа, што разумець пад словам Айчына? Саюз? (яго няма), СНД? (смехдый годзе), Расію? (але ж мы "замежныя хлопцы"), Беларусь? (а ці патрэбны мы ёй?). Прадбачу Ваша абурэнне: маўляў, як гэта не патрэбны? А на самай справе яно так і атрымліваецца. Бо перавод на Беларусь — не толькі справа складаная, бо тут у Іркуцку не хапае афіцэраў і камандаванне часці амаль што нікога яшчэ па-добраму не адпусціла ні на Украіну, ні на Беларусь, ні нават у другі рэгіён Расіі; але справа немагчымая, бо на Беларусі ідзе скарачэнне і сваіх вайскоўцаў няма куды дзець. Вось і думка з'яўляецца: "А ці патрэбны мы Беларусі?" Аднак "забыць яе не маю сілы".

Што датычыць мяне, то я зраблю ўсё, каб усё ж такі вярнуцца на радзіму, на сваю Бацькаўшчыну. Але зноў думка: "А дзе жыць? Бо кватэру ніхто не падорыць, ды і хату нават у вёсцы не так проста надбаць. А калі ў вёсцы жыць, то як жонцы-медыку з яе вузкай спецыяльнасцю (вочны хірург) прыладзіцца?" Вось колькі думак. Аж галава трашчыць. Ды ў мяне яшчэ што. Я тут добра і не прыжыўся. А сярод нас ёсць і такія, што маюць маёмасць, зямлю, гаспадарку, ажаніліся тут, карані пусцілі. І што, усё кінуць? Нельга! Але ж так хочацца, каб нашы дзеці вывучалі беларускую мову, каб яны мелі сваю Бацькаўшчыну, каб іх туды цягнула так, як нас, іхніх бацькоў. Мы яшчэ можам з гонарам адказаць на пытанне: "Адкуль ты?" — "З Беларусі, з Полаччыны альбо з Гомельшчыны". А што будуць адказваць нашы дзеці: "Нарадзіўся ў Іркуцку, два гады жыў у Чыце, чатыры ў Краснаярску, а пяць пад Смаленскам". Кепска, вельмі кепска. А што рабіць?..

Вось гэта пра набалелае. А цяпер пра справы. Беларусаў тут у часці не дужа так і шмат. Але дрэнна не гэта, а тое, што свядомасці ў большасці хапае толькі на званне "беларус". А вось што датычыцца вывучэння (так-так, вывучэння, бо я за 7,5 год жыцця ў Сібіры яшчэ не сустракаў беларусаў, якія б добра ведалі беларускую мову і карысталіся ёю), вывучэння роднай мовы, літаратуры, гісторыі, дык тых "беларусаў на гэта не хапае. Іх аб'ядноўвае не мова, а тое, што ў Беларусі прадукты дзешавей, абутак "Белвестаўскі" прадаюць, клімат лягчэйшы, "зайцы" рублі абскокваюць. Вось гэта асноўная тэма іх размоў. Ну і, безумоўна, амаль усе мараць якім-небудзь чынам апынуцца ў Беларусі, бо там лепш.

І ўсё ж пакрыху свядомасць, што "беларус" — гэта не той жа рускі з акцэнтам, а грамадзянін свайго народа, народа, які мае глыбокія гістарычныя карані, сусветную літаратуру, **сваю!** мову (а не перааробленую рускую), народа, які павінен знайсці свой шлях развіцця, быць роўным з іншымі народамі, а не прыдаткам некага — вось гэтая свядомасць пачынае абуджаць нашых землякоў. І калі раней, як я пачынаў размаўляць з землякамі на беларускай мове, яны сарамліва адварочваліся, адказвалі мне што-небудзь на руска-беларускай з мясцовым акцэнтам гаворцы, пад смех іншых, дык цяпер у нас з'явілася групоўка беларусаў, якія пры сустрэчы размаўляюць на беларускай мове, абмяркоўваюць палітычнае становішча на Беларусі, праблемы эканомікі, культуры, Чарнобыля — адным словам, усяго таго, чым жыве Беларусь. І дзіва: да нас пачалі прыслухоўвацца і паважаць не толькі "нашы" землякі, але і іншыя аднавяскоўцы. Праўда, нам не хапае інфармацыі. Па тэлебачанні калі штосьці пачуеш пра Беларусь, дык гэта свята. Нас выратоўвала газета "ЛіМ", якую я выпісваў тры гады. А цяпер, на здзіўленне, пошта мне адмовіла ў падпісцы, кажуць у іх каталогу такой газеты няма. І зноў пытанне: што рабіць? А можа нам дапаможа "Бацькаўшчына"? Перш за ўсё хацелася б атрымаць весткі пра Сход, яго вынікі, рашэнні. Па-другое, можа дасце нейкую параду, як усё ж выпісаць спадабаны намі "ЛіМ" альбо іншую перыёдыку на беларускай мове? Ну вось, мабыць, і ўсё. Буду чакаць ад Вас ліста. Яшчэ раз вялікае дзякуй за запрашэнне на Сход.

Хацелася б падтрымліваць сувязі з Вамі, Яўген (прабачце, не ведаю Вашага імя па бацьку), і з "Бацькаўшчынай".

Усё.

Да пабачэння.

**Алег.**

Добры дзень, шаноўны спадар Алег!

Прачытаў твой ліст, добра адчуваю цяжар, што ляжыць на душы не ў аднаго цябе, а ў соцень і тысяч беларусаў, якія не па сваёй волі апынуліся ўдалечыні ад Беларусі. А калі нават і па сваёй, дык ці думалі яны дваццаць або і пяць гадоў назад, што будуць адрэзанымі ад Бацькаўшчыны дзяржаўнымі межамі, у незалежных краінах, дзе складваюцца свае спецыфічныя адносіны да некарэннага насельніцтва. А гэта зусім не тое, што ў Беларусі, дзе трэба тактоўна тлумачыць, што беларускі народ з'яўляецца не парабкам, а Гаспадаром у роднай хаце, што ён мае права на адраджэнне і развіццё роднай мовы. Ды справа, зрэшты, не толькі ў мове. У Расіі ці на Украіне, як я разумею, яшчэ паўбяды: усё ж славяне! А як пачуваецца сёння беларус у Малдове, дзе гучаць настойлівыя галасы аб уз'яднанні з Румыніяй, а ў міжнацыянальных непаразуменнях пралілася і беларуская кроў, пагарэла жытло нашых суродзічаў?! А хіба ўтульней сёння беларусу на тым жа Каўказе альбо ў Сярэдняй Азіі, дзе, глядзіш, у любы момант можа заняць ключавыя пазіцыі ісламскі фундаменталізм?! Калі ўдумваешся ва ўсё гэта, дык сапраўды пачынае, кажучы тваімі словамі, трашчаць галава.

Са знявечаных, зняверaных, роспачных чалавечых лёсаў складваецца вялікая праблема, у пэўнай меры яшчэ адна наша беларуская трагедыя. Дапамагчы ў гэтай сітуацыі людзям няпроста, але ж трэба, калі мы сапраўды клапоцімся пра лёс свайго народа, нацыі, пра кожнага яе годнага прадстаўніка, кім бы ён ні быў і дзе б ні жыў...

Вырашаць праблемы дыяспары варта на дзяржаўным узроўні. Але ж дзяржава без самаўсведамлення, без канкрэтных людзей і нацыянальнай палітыкі, свядомасці — гэта абстракцыя, проста нічога. Ты пішаш пра досыць нізкі ўзровень свядомасці сярод землякоў, з якімі сутыкаешся. Паспачуваем ім і, чым можам, дапаможам, бо хіба ж у гэтым толькі іх асабістая віна? На жаль, людзьмі з падобным узроўнем перапоўнены наш чыноўны апарат — гэтая глухая сцяна, аб якую даводзіцца біцца, нешта ёй даводзіць, пераконваць, а яна, як і належыць сцяне, застаецца абыякавай да чалавечых патрэб, трагедый і клопатаў.

За два з паловай гады дзейнасці нашага Згуртавання я адзін ці разам з прэзідэнтам "Бацькаўшчыны" Васілём Быкавым — гэтым увасабленнем нязломнасці і прынцыповасці на шляху да Праўды і дзяржаўнай Незалежнасці, да думкі якога, напэўна ж, прыслухаліся б у кожнай цывілізаванай краіне — накіравалі, мяркую, два ладныя тамы папер у розныя афіцыйныя інстанцыі, спрабуючы давесці, што для наладжвання нармальнай працы з дыяспарай патрэбны нармальныя ўмовы, найперш — прыдатнае памяшканне. Але сцяну паперамі не пахіснеш і не пераканаеш. Высокія чыны, напэўна што, і не чытаюць тых папераў, спускаюць іх уніз па інстанцыі, а адтуль ці даюцца стандартныя адпіскі ці просьбы пераадрасуюцца іншым службам. Нейкі суцэльны абсурд, на ўдзел у якім траціцца безліч часу, энергіі, замест таго каб сабрацца двум-тром адказным асобам і канкрэтна, па-дзелавому вырашыць нейкае канкрэтнае пытанне. Але, мабыць, дзеля таго і існуе бюракратычны апарат, каб ствараць папяровую валтузню, уражанне нейкай дзейнасці, а на самай справе ўсё ўскладняць і заблытваць, каб нельга было знайсці канцоў. Бадай, нешта падобнае робіцца і ў дачыненні да вас, вайскоўцаў. Тут я чалавек зусім недасведчаны, усведамляю складанасць праблемы, пра што ты і сам добра разумееш і пішаш, але няўжо нельга заключыць міжурадавыя пагадненні аб абмене афіцэрамі і прапаршчыкамі, каб рускія павярталіся да сябе ў Расію, украінцы — на рідну Неньку-Украіну, а нашы — да Маці-Беларусі, бо ўсе вы разам, пераблытаныя і адарваныя ад родных каранёў, аднолькава няўтульна пачуваецеся на чужых землях. І сапраўды: хто вы ўсе такія — людзі са зброяй у чужых войсках?..

Не адзін раз давозділася чуць, што ў нас на самым высокім узроўні ёсць зацікаўленыя сілы, якія свядома трымаюць напагатове "міны" замаруджанага дзеяння і не хочуць вырашаць на дзяржаўным узроўні набалелых пытанняў. Але неяк я пачуў і іншую, неафіцыйна выказаную аргументацыю адной адказнай асобы з Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, дзе, мяркую, таксама адкрылася адна з істотных прычын у клубку складанасцяў. Абмен рускіх на беларускіх афіцэраў, сказаў службовец, нерэальны яшчэ і таму, што першыя на гэта проста не пагодзяцца, бо служба ў Беларусі — гэта, у параўнанні з Расіяй, проста рай. Ехаць адсюль у зону ўжо наспелых ці ў недалёкай будучыні магчымых канфліктаў або і проста куды-небудзь пад кітайскую ці мангольскую мяжу, дзе пустэльня ці тайга і да горада сотні кіламетраў, — хто пагодзіцца памяняць жыццё ў абжытай цывілізаванай Беларусі на такое добраахвотнае выгнанне ў дзікі край?..

Але што тут можа зрабіць наша Згуртаванне? Як ты ўбачыш з прынятых на Сходзе дакументаў, вайсковаму пытанню мы надаём вялікае значэнне, бо што гэта за Бацькаўшчына, якую няма каму абараніць ад напасці. Прыклад БНР з яе дэмакратычнымі незалежніцкімі, а мо і святымі ідэаламі, якія, каб сцвердзіліся, маглі б нас уратаваць ад мора крыві і вывесці, скажам, на ўзровень Фінляндыі, ды не ажыццявіліся па прычыне сваёй безабароннасці перад навалай — урок нам на вякі! Але гэта ўжо найперш клопат дзяржавы, калі яна сапраўды сябе такой усведамляе і мае намер утрымацца...

Хацелі мы да Сходу нейкім чынам вырашыць пытанне з бытавой уладкаванасцю афіцэраў-вяртанцаў: увайшлі ў хадайніцтва ў Міністэрства абароны з просьбай выдзеліць пад Мінскам зямлю пад індывідуальныя забудовы. Але пакуль што на гэта афіцыйнага адказу не атрымалі, мабыць, пытанне няпростае і МА без цывільных уладаў яго вырашыць не можа. Але ж рабіць нешта трэба! І я не думаю, што ва ўсіх тых каменіцах, што раптоўна павырасталі ля Мінска, такія ўжо выключна заслужаныя і неабходныя для дзяржавы людзі, якім, да таго ж, і не было дзе сваёй "дзяржаўнай" галавы прыхінуць!

Мы з табой абодва добра разумеем, як няпроста вырашаюцца ўсе гэтыя праблемы. Адзінае, на што можна даць гарантыю, — дык гэта ў справе перасылкі "ЛіМа", "Голасу Радзімы" ды іншых беларускіх выданняў, на якія мы падпісаліся, своечасова паправіўшы (памылку, недагляд ці яшчэ што?) афіцыйных структур, у выніку чаго беларусы пазбаўляліся той нітачкі, што лучыць іх з Бацькаўшчынай. Дарэчы, на другое паўгоддзе ўжо можна падпісацца на беларускія выданні. Але каб лучнасць гэтая была трывалай і плённай, трэба і іншыя формы выкарыстоўваць, бо беларус, якога на працягу стагоддзяў і дзесяцігоддзяў дэнацыяналізоўвалі, ашуквалі, духоўна калечылі, выхоўвалі ў пагардзе да сваёй мовы, гісторыі, культуры, традыцый, — не стане раптам свядомым і адукаваным. Але каб у гэтым кірунку плённа ўплываць на ўсё беларускае замежжа — трэба і людзі, і немалыя фінансавыя сродкі. Як можам, імкнёмся іх у новых умовах зарабляць, але большую долю з заробленага забірае ад нас дзяржава ў форме падаткаў. Мы спадзяваліся, што атрымаем, як творчыя саюзы і некаторыя іншыя грамадскія арганізацыі, льготы ў падаткаабкладанні, але Вярхоўны Савет не пайшоў нам насустрач, не захацеў разумець патрэб беларускай дыяспары і Зварот Сходу беларусаў блізкага замежжа пакінуў без увагі. Вось табе яшчэ адзін прыклад нашай "нацыянальнай свядомасці", так што ты, братка, надта не наракай на сваіх пабрацімаў па нялёгкай сібірскай долі, будзь гатоў і пасля магчымага вяртання на Беларусь сутыкацца з праявамі і абыякавасці, і нігілізму, і неразумення нашых беларускіх патрэб не толькі на побытавым, але і на самым высокім узроўні! Але галоўнае: не паддавацца роспачы, адчаю, не згортваць заўчасна крылаў!

З верай, што, кажучы словамі паэта, узыдзе сонца і акрыяе наша старана, і хочацца закончыць гэты ліст да цябе, як я адчуваю, яшчэ адной светлай беларускай душы на бязмежных абсягах свету.

Калі дасць Бог, і пераадолеем розныя патырчакі, што паўстаюць перад нашым Згуртаваннем напярэдадні першага З'езда беларусаў свету, дык тады і сустрэнемся ў Мінску светлымі летнімі днямі.

Шчырае прывітанне ўсім, у кім трымціць беларуская душа ад ростані з Бацькаўшчынай. Паздароў, Божа, Вашыя дні на славу нашай Маці-Беларусі!

З павагай

**Яўген ЛЕЦКА.**

# БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ



**ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ПАРТРЭТ НАШАГА СУАЙЧЫННІКА З БЕРАГОЎ РЫО-ДЭ-ЛА-ПЛАТЫ**

Італьянцы цесна супрацоўнічалі з Інстытутам імя Дантэ Аліг"еры, які мясціўся ў Буэнас-Айрэсе і якому ўрад Мусаліні аказваў падтрымку. Сам дучэ вучыў ваеннаму майстэрству будучага прэзідэнта Аргенціны Хуана Перона.

А нямецкая калонія "канчаткова адышла... ад сваёй папярэдняй культурнай работы і, цалкам аддаўшыся палітыцы, рыхтавала ў Аргенціне кадры "пятай калоны", — пісаў у сваіх мемуарах П.Шастакоўскі, які жыў на той час у гэтай краіне.

Пад дыктоўку лідэраў нямецкай абшчыны прэзідэнт краіны спецыяльным дэкрэтам ад 1938-га года звядзе да мінімальнага іміграцыйны прыток з Польшчы ў 1939-м. Тады ж і затухне другая хваля беларускай іміграцыі ў Аргенціне. Яна была самай масавай і адрознівалася ад першай вялікім працэнтам аселасці.

**ШТРЫХІ... Аргенціна — гэта Буэнас-Айрэс, сцвярджаюць сталічныя жыхары, "партэньёс". Заснаваў яго іспанскі канкістадор Педра дэ Мендоса ў 1536 годзе на заходнім беразе Ла-Платы, ахрысціўшы велічна і ўрачыста, па ўсіх канонах іспанскай традыцыі: Сьюдад-дэ-ла-Сантысіма-Трыні-дад-і-дэ-Пуэрта-дэ-Нуэстра-Сеньёра-дэ-Санта-Марыя-і-дэ-Буэнас-Айрэс — Горад Прасвятой Тройцы і Порт Нашай Багамацеры Святой Марыі і Добрых Вятроў. Час — дасціпны і ашчадны рэдактар — пакінуў самае галоўнае — "Буэнас-Айрэс", а цяпер і проста "Байрэс". Гэта самы еўрапейскі з усіх гарадоў Лацінскай Амерыкі. І самы стылізаваны пад Заходнюю Еўропу. Знешняму падабенству, як і ўнутранаму адрозненню, можна знайсці адно і тое ж тлумачэнне. Аргенціна — сучасны Вавілон, сталіца — яго эмігранцкая, сабраная з усяго свету вежа.**

**У федэральнай сталічнай акрузе і 19-ці яе прыгарадах жыве больш за 10 мільёнаў чалавек. У горадзе, адной з буйнейшых агламерацый свету плошчай 4 тысячы квадратных кіламетраў, працуе палова рабочых рук краіны, выпрацоўваецца 50 працэнтаў прамысловай прадукцыі.**

**Нязвыклым для мяне, "паўночнага" чалавека, падаўся начны спосаб жыцця, пераняты ў іспанцаў. Заўжды здзіўляюся: калі лацінаамерыканцы і іспанцы спяць? З прыходам поўначы пульс горада-волата пачынае біцца пачашчана, наўмысна весела, бесшабашна... Можа пад ранне гадзіны на дзве Горад Добрых Вятроў зводзіць вочы і — прачынаецца. Прачынаецца і кідае ў кругаварот новага дня мільёны грамадзян. І нашых землякоў, хто аддаў сталіцы столькі поту, умення, ахвярнасці.**

## 4. ПАД ЗНАКАМ ВАЙНЫ

Другая сусветная вайна, як бы ні рыхтаваліся да яе загадзя, схаваўшыся за Атлантыкай, ускалыхнула беларускую калонію. Яна перакроіла і яе светаразуменне, і дзейнасць, і ўзаемасувязі з іншымі славянамі. Яна прадвызначыла і задала накірунак яе быццю не адно што на ваенныя, але і на многія дзесяткі гадоў наперад. Аж да сённяшніх дзён. Бура сусветнай бітвы ўцягнула ў вір і нашых аргенцінскіх суродзічаў.

З першых месяцаў вайны, як адзначаў імігранцкі друк, "беларусы не паддаліся паніцы, а наадварот ... перадавыя і свядомыя людзі ўзяліся за работу па збору грошай і ахвяраванняў на дапамогу радзіме". Гэта работа вядзецца Беларускім дэмакратычным камітэтам дапамогі радзіме (БДК), які ўзнік пры таварыствах (старшыня — В.Крукоўскі, сакратар — І.Шоц, скарбнік — В.Савіцкі).

БДК ахопліваў 5 тысяч сяброў і 36 падкамітэтаў у розных гарадах Аргенціны, Парагвая, Уругвая, Бразіліі. Было праведзена некалькі кампаній па збору даткаў "За падзенне Берліна", "За адбудову гарадоў і вёсак Беларусі", "На будаўніцтва шпіталя "Мінск", "На дапамогу сіротам Вялікай Айчыннай вайны". Расказвалі мне суайчыннікі ў Буэнас-Айрэсе: "Мы шылі адзенне, вязалі пуловеры, хусткі, выраблялі бінты, абутак".

З чэрвеня 1941 года па кастрычнік 1946-га беларусы Аргенціны праз Міжнародны Чырвоны Крыж выслалі ў СССР 125 скрынь адзення, 17 500 пар абутку, тытунь і г.д., усяго — на суму звыш мільёна песа. Цікава было даведацца, як дайшла, як была выкарыстана дабрачыннасць лаплацкіх землякоў. Ці не так, як сённяшняя гуманітарная помач?

Праз тры месяцы пасля нападзення Германіі на Бацькаўшчыну на першай агульнаславянскай канферэнцыі, скліканай у Буэнас-Айрэсе, паўстае Камітэт за аб"яднанне славян Аргенціны. Разгортваецца панславянскі рух.

У сакавіку 1943 года на І-м лацінаамерыканскім кангрэсе ў Мантэвідэо (Буэнас-Айрэс санкцыю на правядзенне не даў), дзе ў шэрагу іншых прысутнічалі 50 дэлегатаў-беларусаў з Аргенціны, быў створаны Славянскі Саюз Аргенціны. Старшынёй выканаўчага камітэта быў абраны нечакана для яго самога выхадзец са старога дваранскага роду, афіцэр царскай арміі, ужо памянёны намі П.Шастакоўскі, які рэпатрыіруе ў сярэдзіне 50-х і будзе жыць у Мінску. (Сёння яго ўнук кампазітар Сяргей Картэс узначальвае Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі). "Палохалі памеры руху, — прызнаецца ён праз гадоў дваццаць, — які пакрыў усю Аргенціну сеткай сваіх арганізацый, пачынаючы з даліны Чубута на патагонскім поўдні да Чака і Фармоса на поўначы, ад Мар-дэль-Плата на ўсходзе да Мендосы на захадзе". Пройдзе год, і буэнас-айрэскія ўлады закрыюць Славянскі Саюз на кароткі тэрмін, а ў 1949-м — канчаткова.

І ў славянскім руху, і ў акцыях па збору дабрачынных ахвяраванняў беларускія працоўныя іміграНТЫ змыкаюцца з антыгітлераўскі настроенай праслойкай белай эміграцыі. Да такога даволі своеасаблівага альянсу вымагала не толькі антыфашысцкая салідарнасць, але і аб"ектыўная патрэба: адсутнасць інтэлігенцыі ў беларускіх асяродках. Таму заняткі на курсах самай рознай спецыялізацыі праводзілі добра падрыхтаваныя, з высокім узроўнем гуманітарнай і эканамічнай адукацыі інтэлігенты са збяднелых белаэмігрантаў. Праўда, па вайне гэтае кантактаванне ўжо не будзе мець месца.

Дарэчы, на абышлося без беларускай прысутнасці і ў белагвардзейскай супольнасці, разнітаванай у Аргенціне на тузін "кішэнных" партый, камітэтаў, саюзаў. З 30-х гадоў там шчыраваў у імя расійскага манархізму Іван Саланевіч: выдаваў і рэдагаваў газету "Наша страна", напісаў некалькі навукова-публіцыстычных твораў.

Пад знакам вайны і толькі з уласцівай логікай і законамі, узмацнення сталінскай прапаганды ў беларускім супольніцтве Аргенціны развіваюцца даволі няпростыя працэсы.

З аднаго боку, множыцца колькасць нацыянальных суполак. 26 траўня 1940 гола ў сталіцы Аргенціны сабраўся Першы кангрэс беларускіх культурных таварыстваў. (Такія кангрэсы будуць праходзіць штогод). Ён ініцыіруе ўзнікненне новых арганізацый: Беларускага культурна-асветнага таварыства ў г.Берыса, Таварыства на Вілья-Лінч, Бібліятэкі імя Я.Купалы ў правінцыі Камадора-Рывадавія, Таварыства імя Я.Купалы (г.Буэнас-Айрэс), імя Я.Коласа і г.д.

З другога боку, ідэалагічная машына сталінскага знешне-палітычнага і дыпламатычнага кіраўніцтва стараецца ўлажыць беларускія сябрыны ў пракруставa ложа русіфікацыі і цэнтралізацыі, адсякаючы іхняе нацыянальна-культурнае і грамадаўскае начынне. У чым гэта праяўляецца?

Неяк неўпрыкмет беларускія назвы таварыстваў выцясняюцца расійскімі. Вось прыклад такой "ліквідатарскай" эвалюцыі. Беларускае культурна-асветнае таварыства "Беларуская Грамада" (год заснавання 1934-ты) прыблізна ў 1939 годзе становіцца проста Беларускім культурна-асветным таварыствам, у 1945 — Беларускім культурна-асветным цэнтрам, у 1947-м — Культурна-асветным цэнтрам імя М.Горкага, у 50-я гады — Культурна-спартыўным клубам імя М.Горкага, які існуе і сёння.



**Камісія па справах моладзі таварыства імя Янкі КУПАЛЫ.**

У 1945 годзе адбыўся пяты па ліку кангрэс беларускіх таварыстваў. Тым не менш з прычыны таго, што папярэднія былі быццам бы "несапраўднымі", з ухілам у "нацыяналізм", ён атрымлівае статус "першага".

Зніжаецца і без таго малая колькасць беларускамоўных старонак у календарах, скарачаецца іхняя нацыянальная тэматыка. Уносіцца блытаніна ў назвы і гады заснавання таварыстваў: за год стварэння падаецца год перайменавання і г.д.

На трэцім (у сапраўднасці дзевятым) кангрэсе за нежаданне адмовіцца ад нацыянальна-культурных прынцыпаў сваёй дзейнасці на карысць інтэрнацыянальна-палітычных "Культура" і "Бібліятэка імя І.Луцкевіча" выключаюцца з Федэрацыі беларускіх таварыстваў.

У рэшце рэшт пасля вайны на месцы ранейшых таварыстваў дзейнічаюць: Клубы імя М.Горкага (5 тысяч сяброў), імя А.Астроўскага (2 тысячы), імя А.Пушкіна (1 тысяча), імя В.Бялінскага (2 тысячы), імя У.Маякоўскага (800 чалавек), імя А.Талстога (500) і г.д.

Перамога над фашызмам вельмі высока падняла аўтарытэт Савецкага Саюза ў вачах беларускага люду Аргенціны. Гэта праўда. Але няма падставы не верыць Ул. Гайлевічу, аднаму з лідэраў Федэрацыі беларускіх таварыстваў (на яго мы спасылаліся і ў першай частцы), які ў сярэдзіне 70-х у пісьме да "Голасу Радзімы" пісаў, што не ўсе, каля 60 працэнтаў беларусаў Аргенціны перыяду вайны падтрымлівалі палітыку СССР, а 40 — не.

Некаторыя кіраўнікі беларускіх суполак перабольшвалі значэнне і ступень палітычнага ўплыву беларуска-славянскага руху на аргенцінскае грамадства. Хто падсвядома, а хто і наўмысна, дзеля маштабнасці. Калі нават усю чыста славянскую калонію з яе палярнымі палітычнымі, часта антаганістычнымі групоўкамі паставіць на рэйкі прасавецкай арыентацыі (што само па сабе абсурдна), дык колькасна яна недабірала і да 500 тысяч. Гэта складала б недзе 1,5 працэнта ад усяго насельніцтва. А што тады казаць пра беларускую?.. (І гэта ацэнкі нашых аргенцінскіх землякоў. А навукоўцы Аргенціны паказваюць, што калі перад першай сусветнай вайной цалкавітая замежная іміграцыя давала 36 працэнтаў прыросту насельнікаў, дык перад другой — 0,6).

Не варта і забываць, што ваенныя дыктатуры, перыядычна прыходзячы да ўлады пасля чарговага перавароту, на другі ж дзень забаранялі апазіцыйныя ім структуры, у іх ліку і беларускія. А цывільныя ўлады, наадварот, давалі дазвол на аднаўленне дзейнасці. Але і тыя і другія глядзелі адпаведна менш і больш памяркоўна на работу Масквы з беларускімі іміграНТамі, многія з якіх ужо сталі... савецкімі грамадзянамі. Гэты феномен — бадай што найболей складаны і абсалютна не даследаваны. А таксама цесна звязаны з рэпатрыяцыяй.

Рээміграцыйны ўсплеск, зноў жа выбуховага паходжання, узнікае ў 1939 годзе як водгук на ўз'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі. Праводзіцца шырокая кампанія па абмену польскіх пашпартоў на савецкія. Але Аргенціна не мела дыпламатычных зносін з СССР. Савецкае консульства працавала ва Уругваі, на супрацьлеглым, усходнім, беразе Ла-Платы. Туды і хлынулі з вялікім імпэтам, зададзеным тугой і смуткам па родных і любасных мясцінах, тысячы аргенцінскіх беларусаў.

Наплыў стаўся настолькі лавінападобным, што абмен дакументаў не быў завершаны перад вайной. А падчас яе не вёўся. Паклаўшы на сэрца "малаткасты-сярпасты", беларускія неафіты на борздым кані паімчаліся распрадаваць нажытае іміграНцкім гарбом майно, дамы, гаспадарку. Даверліва шыхаваліся да сустрэчы з радзімай, не зважаючы на ўсялякія перасцярогі, контрпрапаганду і заклікі заставацца. А яна, сустрэча, задоўжылася. Гумай шматслойных фільтраў-праверак расцягнулася аж на пятнаццаць гадоў чакання. І многіх пакінула ля разбітага карыта... Канешне, сваё слова, страшнае і цяжнае, сказала і вайна.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



**На адкрыцці Дома таварыства імя Якуба КОЛАСА.**

**Працяг. Пачатак у № 15 — 18.**

# НАРКОМ ЯЗЭП ДЫЛА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Але асаблівы ўплыў на фарміраванне малога Юзіка (так яго звалі ў сям"і) аказала бабуля па маці Дамяніка Куляшэвіч, у якой ён гадаваўся. Яна і яе брат Пятро былі апошнімі нашчадкамі вядомых слуцкіх ткачоў Бенькаў (Бенька, Бянько). Але славілася яна ў горадзе не толькі як ткачыха танюсенькага кужэльнага нешырокага палатна значнай даўжыні, якое выкарыстоўвалася на татарскія чалмы і беларускія наміткі для замужніх жанчын, але і сваёй адукаванасцю. "Бабка Дамяніка добра ведала старажытнаславянскую і беларускую мовы, ні рускую, ні польскую не вывучала нідзе, падпісвалася "Дамяніка Куляшэвіч" і за свой век прачытала ўсё, што было надрукавана ў Беларусі і іншых славянскіх друкарнях Дуброўніка, Ценчына, Прагі, Кракава,.. асабліва кнігі айцоў хрысціянскай царквы. Мая бабка атрымала рэдкую ў тыя часы самаасвету". Яна мела незвычайную памяць і добрыя веды ў галіне гісторыі і фальклору, была добрай і разумнай, пахрысціянску добразычлівай, яе вельмі паважала і любіла яўрэйская бедната, якая жыла побач. Бабка чытала па памяці беларускія вершы і цэлыя паэмы, апавяданні, паданні і балады, была вядомым знаўцам беларускіх песняў, жартаў, абрадаў. Слуцкі іканапісец Вяроўскі нават запісаў усё гэта ў 20-ці тоўстых вучнёўскіх сшытках у цыратавых вокладках, настолькі яе веды былі цікавымі і, як ён лічыў, каштоўнымі. А сын Вяроўскага абяцаў гэтыя запісы захаваць для нашчадкаў. Настаўнік жа матэматыкі Слуцкай гімназіі Мікалай Чудоўскі пастараўся зрабіць фонатэхнічныя запісы бабуліных песень, жартаў і паданняў, якія па яго хадайніцтву былі надрукаваны ў Маскоўскім зборніку рускага фальклору.

Малы Юзік з калыскі чуў бабуліны песні, казкі, апавяданні, паданні, і яны, безумоўна, паўплывалі на ягоную пазнейшую дзейнасць і літаратурную творчасць. Спрацавалі гены.

Другім асяродкам фарміравання інтэлігента была Слуцкая гімназія, якая адчыніла свае дзверы для навучэнцаў у 1617 годзе. У ёй вучыліся беларускі філосаф і паэт Я.Белабоцкі, асветнік і кнігавыдавец І.Капіевіч, пісьменнікі А.Плуг, Н.Чарноцкі, А.Абуховіч і інш. Язэп вучыўся тут з 1890 па 1898 год. Гэтую ж гімназію скончылі брат Косця, які пазней стаў афіцэрам царскай арміі, і сястра Алена, потым настаўніца беларускай мовы. Яны ўжо былі інтэлігентамі ў другім пакаленні. Як яны выглядалі ў 1903 годзе, можаце меркаваць па фота, якое друкуецца разам з артыкулам. Першы злева сядзіць Язэп, трэцяя справа – Алена, другі справа (стаіць) Косця; астатнія – сябры і службоўцы Косці.

З 1899 па 1903 год Язэп вучыўся ў Юр"еўскім (цяпер Тартускім) ветэрынарным інстытуце, адкуль яго выключылі за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Маючы літаратурныя здольнасці, ён вяртаецца ў Беларусь і працуе ў газеце "Северо-Западный край". З 1905-га тры гады жыве ў Санкт-Пецярбургу, працуе ў выдавецтве і дае прыватныя ўрокі па матэматыцы і рускай мове дзецям авіяканструктара Міхаіла Літвінава. Там жа знаёміцца з гувернанткай Літвінавых латышкай Лізаветай Скуе, якая навучала дзяцей нямецкай мове і зусім не ведала рускай. Хутка Язэп і Лізавета ажаніліся.

У 1909 годзе Я. Дыла піша першы твор у прозе "Перад раніцаю", друкуе верш "Вечар ясны, ціхі..." ў газеце "Наша ніва". Пазней Дыла вельмі зацікавіўся выдавецкай дзейнасцю і працаваў у выдавецтвах Арэнбурга, Казані, Масквы, стаўшы прафесійным выдаўцом. У Маскве сустрэў Лютаўскую і Кастрычніцкую рэвалюцыі. Лічыў, што Усебеларускі кангрэс, які сабраўся ў Мінску 14 снежня 1917 года, быў вяршыняй беларускага нацыянальнага руху. "Я быў на ім як прадстаўнік Маскоўскага беларускага бежанскага камітэту разам з Алесем Бурбісам", – пісаў ён ужо ў наш час.

Падчас акупацыі Мінска кайзераўскімі войскамі і дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ён працаваў старшынёю Маскоўскага беларускага бежанскага камітэта і загадчыкам бібліятэкі беларускага рабочага клуба "Беларусь", зблізіўся са Зм. Жылуновічам, які быў сакратаром Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамаце РСФСР. Яны былі землякамі (Жылуновіч таксама нарадзіўся на Случчыне), і гэта сяброўства яны падтрымлівалі ўсё жыццё. Жылуновіч рэдагаваў савецкую газету "Дзянніца", і Дыла надрукаваў у ёй шэраг сваіх публіцыстычных артыкулаў, у якіх вітаў станаўленне савецкай улады і апавядаў пра беларускае грамадска-культурнае жыццё ў Маскве; пераклаў з украінскай мовы вершы М. Канапніцкай. У гэты час шмат беларускіх бежанцаў працавала на фабрыках і заводах Петраграда, асабліва на Пуцілаўскім, Масквы і іншых гарадоў. Усе яны трымалі сувязь з Беларускім нацыянальным камісарыятам праз Жылуновіча і з Дылам, які гэтую інфармацыю змяшчаў у "Дзянніцы". Вярнуўшыся ў Мінск, Дыла ўвайшоў разам з Жылуновічам у склад Часовага ўрада, а потым працаваў на розных кіруючых пасадах у БССР.

Пачынаючы з 1924 года, Я. Дыла працуе на ніве беларускай культуры: ён правадзейны член і вучоны сакратар Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), потым дырэктар Інстытута па вывучэнню мастацтва, дырэктар Дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы, намеснік загадчыка Белдзяржкіно. У гэты час ён зацікавіўся гісторыяй Беларусі і напісаў драматычныя творы "Панскі гайдук", пастаўленую ў БДТ-1 (афішу гэтага спектакля я прывезла з Саратава), і "Падуанскі студэнт", якую, аднак, не закончыў.

Працуючы ў Белдзяржкіно, ён шмат часу прысвяціў арганізацыі натурных здымак фільма "Кастусь Каліноўскі". Так, сцэну пакарання К. Каліноўскага Дыла параіў здымаць у Мінску на фоне дамініканскага кляштара, які знаходзіўся на вуліцы Энгельса (знішчаны пасля 1960 года). А сцэну бою з расейскімі войскамі здымалі на жывапісных берагах Астрашыцкага возера, куды Дылы вывозілі на лета сваю дачку, якая хварэла на сухоты.

Плённая творчая і грамадская дзейнасць Язэпа Дылы была спынена сталінскімі рэпрэсіямі. Ён быў арыштаваны як беларускі нацдэм, нягледзячы на тое, што вітаў станаўленне савецкай улады і шчыра ёй служыў. Жывучы ў Мінску, сям"я Дылаў сябравала з сем'ямі вядомага ўрача Клумава, беларускага вучонага-хіміка Сушынскага, вядомых адраджэнцаў 20-х гадоў В. Ластоўскага, Лёсіка, Родзевіча, якія таксама былі рэпрэсіраваны, а пасля ГУЛАГаў ім дазволілі пасяліцца ў Саратаве, дзе яны зноў сустрэліся і дапамагалі адзін аднаму ў нялёгкіх варунках. Спачатку ў Саратаў прыехалі Ластоўскія, якія ў 1932 годзе дапамаглі зняць прыватную кватэру на ўскраіне Саратава, побач з сабою. А пасля паўторнага арышту Ластоўскага і яго жонкі Станіславы Пятроўны, якая вярнулася з лагера ў Саратаў у 1943 годзе, Дылы прытулілі яе ў сваёй маленькай кватэры, дзе жылі адзінай сям'ёй цэлых 13 гадоў, да поўнай рэабілітацыі яе і Я. Дылы. У 1938 годзе Я. Дылу зноў арыштавалі па даносу, але потым выпусцілі. І вось такі адукаваны чалавек, прафесіянал-выдавец, літаратар, журналіст-публіцыст, пісьменнік, драматург павінен быў гібець, працуючы ў Саратаўскім гарадскім запытальным аддзеле.

З успамінаў Ганны Язэпаўны Дылы аб бацьку і маці паўстаюць вобразы вельмі інтэлігентных, адукаваных, добразычлівых і жыццярадасных людзей, якіх не скарылі цяжкія выпрабаванні. Яны, як ні дзіўна, усё роўна верылі ў светлую камуністычную будучыню, верылі, што ў іх пакутах вінаваты быў толькі Сталін і яго акружэнне, што непаразуменне хутка высветліцца. Ганна Язэпаўна ўспамінае, што бацька вельмі добра спяваў ("у него был дивный голос"). Кожны дзень ён пачынаў з песні. Гэтую ж акалічнасць падмеціў і прафесар Адам Мальдзіс, які наведаў Я. Дылу ў 60-я гады і першы надрукаваў аб ім артыкул. А падчас Айчыннай вайны, калі жыццё стала невыносна цяжкім з-за нястачы харчавання і псіхалагічных пакут, выкліканых ваеннымі падзеямі, Язэп Дыла кожны дзень, вяртаючыся з працы, звяртаўся да стомленай пасля працы дачкі: "Давай, дачушка, паспяваем!" І яны на два галасы спявалі "Зорку Венеру", "Слуцкія ткачыхі", "Інтэрнацыянал", "Смело, товарищи, в ногу...", "Марсельезу", рускія, грузінскія і ўкраінскія песні, нават арыі з опер. Неабходна заўважыць, што дачка Я. Дылы скончыла Саратаўскае тэатральнае вучылішча і павінна была ехаць працаваць у Свярдлоўскі драмтэатр. Але бацькі ад сябе не адпусцілі, і яна ўсё жыццё працавала выхавацелем дзяцей у дзіцячым доме, таму што ў саратаўскіх тэатрах не было вакантных месцаў.

Самотна жылося Я. Дыле на чужыне, ён вельмі хацеў вярнуцца ў родную Беларусь. Знойдзеныя ў яго архіве напісаныя алоўкам чарнавікі лістоў ад канца 40-х гадоў да Якуба Коласа з мальбой дапамагчы яму вярнуцца ў Мінск, кранаюць да слёз. Дыла піша: "Вы ж ведаеце, што я ні ў чым не вінаваты. Дайце мне магчымасць працаваць, хоць малодшым бібліятэкарам. Я ж маю такі багаты вопыт у выдавецкай і бібліятэчнай справе".

З адказаў Улашчыка на лісты Дылы вынікае, што і ў 60-я гады ён яшчэ марыў аб вяртанні на радзіму. Улашчык пісаў яму ў суцяшэнне 31 мая 1963 года: "Мы, хлопцы, крычалі на пленуме СПБ, што вас трэба запрасіць у Мінск". І тут жа раіў апавяданне 80-гадовага Дылы паслаць друкаваць у "Маладосць" ці Лынькову. Справа ў тым, што бюракраты ад пісьменніцкай арганізацыі не хацелі ні вярнуць Дылу ў Беларусь, ні друкаваць яго творы, ні ставіць яго радыёпастаноўкі.

Дыла (на дзевятым дзесятку гадоў) жыў напружанай інтэлектуальнай працай. А ў 1957 годзе Сіманоўскі пісаў Дылу, што выслаў па яго просьбе бібліяграфічныя даведнікі аб п'есе Купрына "Клоун", аб перакладах на беларускую мову Э. Сінклера.

Дыла цікавіўся працамі аб К. Каліноўскім і аб сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі да 1861 года, таму што Улашчык пісаў яму аб знікненні рукапісу на гэту тэму, напісанага Жуковічам, які працаваў у Інбелкульце. Відавочна, Дыла працаваў над аповесцю, прысвечанай Кастусю Каліноўскаму. Ён прасіў выслаць "Рочнік Беластоцкі", дзе быў надрукаваны артыкул польскай даследчыцы З. Каменскай аб Урэцкай шкловай мануфактуры.

У 60-я гады Дыла яшчэ напісаў драматычны твор "Юнак з Крошына" (1965), аповесць "У імя дзяцей" (1968), раман "На шляху з варагаў у грэкі" (не закончыў), успаміны пра Я. Купалу, Я. Коласа, Я. Райніса, працы аб тэатральным жыцці Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў. Ужо пасля яго смерці былі выдадзены яго "Творы", падрыхтаваныя прафесарам А. Мальдзісам.

Вось такія разнастайныя інтарэсы меў наш сціплы інтэлігент са Слуцка, вось такая была яна, беларуская інтэлігенцыя, першай адраджэнскай хвалі XX стагоддзя. А якія інтарэсы маем мы, сучасныя беларускія інтэлігенты? Ці маем права так называцца?

**Мая ЯНІЦКАЯ.**



ПЕРАД З'ЕЗДАМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

## ДАНЕСЦІ ПОЎНУЮ ІНФАРМАЦЫЮ

30 красавіка ў Мінску адбылася нарада прадстаўнікоў рэспубліканскіх газет, электроннай прэсы, выдавецтваў, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і інш., якую зладзіла Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Галоўную тэму размовы вызначыў намеснік міністра Іван Карэнда: "Што і як трэба зрабіць, каб адлюстраваць, данесці да беларускага чытача поўную інфармацыю аб ходзе падрыхтоўкі і правядзенні Першага з'езда беларусаў свету". Пры гэтым мелася на ўвазе не толькі сама сустрэча суайчыннікаў у Мінску, але і адлюстраванне жыцця і дзейнасці ўсёй беларускай дыяспары.

У выказваннях старшыні Рады "Бацькаўшчыны" Я. Лецкі і кіраўніка рабочай групы па правядзенню з'езда пры Управе ЗБС Г. Сурмач адзначалася, што леташні сход нашых суродзічаў з блізкага замежжа не выклікаў належнай увагі з боку сродкаў масавай інфармацыі і па сутнасці апынуўся ў інфармацыйным вакууме. Гэта павінна паслужыць належным урокам, каб выключыць найменшую магчымасць такога негатыўнага паўтарэння.

Удзельнікі нарады абмяняліся думкамі па канкрэтных пытаннях: стварэнне (у самы бліжэйшы час) прэс-цэнтра пры ЗБС "Бацькаўшчына", выданне святочна-сувенірнага нумара газеты "Звязда", прысвечанага гэтай падзеі, некалькіх кніг гістарычнага кшталту і г.д.

Сённяшнія арганізацыйныя захады ЗБС "Бацькаўшчына" пры падтрымцы дзяржаўных структур рэспублікі даюць мажлівасць прыйсці да высновы, што падрыхтоўка да з'езда ідзе самым актыўным і дзелавым чынам.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## ПАЎТАРЫЦЬ ЛАЗАРА БОГШУ?

У Брэсце адбылося асвячэнне майстэрні мастака М. Кузьміча, які займаецца аднаўленнем крыжа Ефрасінні Полацкай. На цырымоніі прысутнічалі спонсары, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Праводзіў асвячэнне Патрыяршы Экзарх Беларусі мітрапаліт Слуцкі і Мінскі Філарэт. Удзельнікі цырымоніі падзякавалі Камітэту дзяржаўнай бяспекі і асабіста яго старшыні Эдуарду Шыркоўскаму за забеспячэнне бяспекі, аховы пры транспарціроўцы каштоўнасцей, якія будуць скарыстоўвацца пры аднаўленні крыжа.

## "СУЗОР'Е" ТАЛЕНТАЎ

Ва ўрачыстай абстаноўцы адзначыў сваё 20-годдзе папулярны брэсцкі ансамбль песні і танца "Сузор'е", нязменным кіраўніком якога з'яўляецца яго стваральнік – заслужаны работнік культуры рэспублікі Веньямін Васіленка. Гэтаму сузор'ю талентаў на працягу двух дзесяцігоддзяў апладзіравалі не толькі ў родных гарадах, мястэчках і вёсках, але і ў Польшчы, Германіі, Югаславіі, Турцыі, Сірыі, Егіпце, Францыі, на Кіпры і ў іншых краінах.

## З ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ АЛЕСЯ ЗМАГАРА

# ТЫ ЛЯ МЯНЕ ДЗЯЎЧЫНА-БЕЛАРУСЬ

У паэтычную анталогію беларускай эміграцыі "Туга па Радзіме" пісьменнік Барыс Сачанка, на жаль, вельмі мала ўключыў вершаў таленавітага паэта, празаіка і драматурга Алеся Змагара (сапраўднае прозвішча Яцэвіч). Усяго толькі восем, сярод якіх тры чатырохрадкоўі, адно з якіх запомнілася:

**Куды б цябе лёс ні закінуў,**
**Якім бы ні джаліў асцём,**
**Сваю дарагую Краіну**
**Любіць мусіш больш за жыццё.**

Прадставіць рэспубліканскаму чытачу творчасць такога літаратара, як Алесь Змагар, васьмю вершамі, скажу шчыра, даволі мала. Ён заслугоўвае большай увагі, бо зрабіў і робіць для беларускай літаратуры і культуры на эміграцыі шмат вартага. Але ўсё па парадку.

Адразу напомню, што сёлета беларус Алесь Змагар адзначыць сваё 90-годдзе. А нарадзіўся ён 1 кастрычніка 1903 года ў вёсцы Цароўцы на Случчыне ў сям'і валаснога фельчара. Дарэчы, бацька яго, Хведар Яцэвіч, прымаў удзел у Слуцкім паўстанні (1920 год), быў атаманам аддзела случчакоў. У адным з баёў яго паранілі бальшавікі, а пасля ўзялі ў палон і расстралялі.

Разам са сваімі землякамі браў удзел у Слуцкім паўстанні і сын Хведара Яцэвіча Алесь. За плячыма былі ўжо народная школа і Слуцкая гімназія, таму жыццёвага вопыту трохі набыў. Пазней за гэта Алеся Змагара пасадзяць у турму, з якой яму ўдасца ўцячы.

У 1925 годзе малады слуцкі юнак паступае ў Белдзяржуніверсітэт на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта, які скончыў у 1930 годзе.

Вершы пачаў пісаць, калі яшчэ вучыўся ў Слуцкай гіназіі, змяшчаў іх у гімназійным часопісе "Прамень". На працягу 1919—1920 гадоў Алесем Змагаром было напісана больш за трыста паэтычных твораў. Амаль усе яны былі прысвечаны Беларусі, нацыянальна-вызваленчаму руху, а таксама светламу юначаму каханню. І, наогул, Алесь Змагар — гэта адзіны беларускі эміграцыйны паэт, які напісаў шмат вершаў пра каханне, пра жанчын, пра гарачыя пачуцці мужчын да жанчын і наадварот.

У некаторых сваіх вершах Алесь Змагар умела параўноўвае Беларусь з жанчынай-князёўнай, якой прызнаецца паэт у каханні, пра якую марыць і сніць:

**Князёўна дум маіх,**
**Кунежных сноў царыца!**
**У чароўным лятуценьні**
**Я выпесціў Цябе.**
**Стаіш Ты ля мяне**
**У белым аксаміце**
**Ў зьнямозе ад каханьня,**
**Ў гарэзнай барацьбе.**
**І п'ю я чад уцех**
**Агністага улоньня.**
**П'янею ад пяшчотаў**
**Тваіх палынных рук,**
**Я падаю, лячу**
**Ў салодкае прадоньне...**
**А Ты! Ты ля мяне**
**Дзяўчына-Беларусь.**

*("Князёўна дум маіх").*

У 30-я гады лірычныя вершы Алеся Змагара вельмі любіла моладзь. Юнакі і дзяўчаты завучвалі іх на памяць, з радасцю дэкламавалі са сцэн вясковых клубаў і на вячорках.

Аднойчы Алесь Яцэвіч перапісаў свае паэтычныя радкі ў адзін сшытак і паслаў іх у Мінск у газету "Звязда". Трапілі яны там у рукі Міхасю Чароту. І калі слуцкі юнак наведаў Мінск і завітаў у рэдакцыю, Міхась Чарот вярнуў вершы назад і сказаў, што яны добрыя, але трэба іх спаліць, каб не трапілі ў лапы НКВД, бо будзе бяда. Прыехаўшы дамоў, малады паэт схаваў іх у адным з гаспадарчых памяшканняў, але ў час вайны туды трапіла бомба, і ўсе творы згарэлі ў агні.

У гады нямецка-фашысцкай акупацыі Алесь Змагар працаваў інспектарам беларускіх народных школ у Радашковіцкім, Лідскім і Шчучынскім паветах. Адначасова быў кіраўніком настаўніцкіх курсаў Лідчыны.

27 чэрвеня 1944 года паэт і настаўнік Алесь Яцэвіч прымае ўдзел у 11 Усебеларускім кангрэсе ў Мінску, а праз некалькі тыдняў эмігрыруе ў Аўстрыю. У Вене з яго дапамогай і непасрэдным удзелам было адчынена пяць пачатковых беларускіх школ. На працу настаўнікамі ён узяў сюды Алеся Салаўя. Пятра Мірановіча, Валянціну Яцэвіч і іншых хлопцаў і дзяўчат, якія развіталіся з Беларуссю.

У 1949 годзе Алесь Змагар пераехаў у Францыю, дзе быў абраны генеральным сакратаром беларускіх работнікаў Францыі, адначасова працаваў сакратаром аддзела часопіса "Баявая Ускалось" (рэдактарам быў Сяргей Хмара) і займаў таксама адно з кіруючых месцаў пры штабе Беларускага вызвольнага руху (БВР).

З 1956 года Алесь Змагар жыве ў ЗША. Быў старшынёю Галоўнай управы БВР, рэдактарам газеты "Незалежная Беларусь" і альманаха "Пражэктар". Цяпер ужо не працуе, але па-ранейшаму шмат піша.

Жывучы ў эміграцыі, Алесь Змагар шмат выступаў і выступае са сваімі творамі ў многіх газетах і часопісах. Яго вершы, апавяданні і ўспаміны друкаваліся ў "Раніцы", "За Волю", "Бацькаўшчыне", "Моладзі", "Патрыёце", "Беларускім патрыёце", "Беларускім Голасе", "Баявой Ускалосі", "Божым Шляху", "Беларускім Слове", "Беларускай Думцы", "Царкоўным Сьветачы", "Незалежнай Беларусі" і ў іншых выданнях, якія выходзілі і выходзяць далёка ад Беларусі.

У 1962 годзе ў Кліўлендзе пабачыў свет яго першы паэтычны зборнік "Да згоды". Ён складаецца з чатырох раздзелаў: "Пад Сьцягам Пагоні", "Родны Край", "Настроі" і "На палетках Слуцкіх". Шмат вершаў паэт прысвяціў роднай Беларусі, бацькоўскаму краю, без якіх цяжка жыць і якія немагчыма забыць.

Але дзе б паэт ні жыў, дзе б ні працаваў, яго думкі заўсёды з мілай сэрцу Случчынай. Яна скразною лініяй праходзіць праз усю яго творчасць. А дзе ён пяе пра яе, абавязкова будуць радкі і пра мужнасць беларускіх дзядоў і бацькоў у час Слуцкага паўстання:

**Гудзе над Случчу навальніца,**
**Дрыжыць, калышацца зямля,**
**У вагні пажараў край дыміцца,**
**Край мірнай працы, край сялян.**
**Угары крумкач драпежыць чорны,**
**Цікуе штосьці скрозь едкі дым,**
**Але на варце непакорны**
**Стаў бацька з сынам маладым.**
**Насупілася пушча строга,**
**Шапочацца гальлё галін,**
**Шуміць узрушанай трывогай,**
**Заве паўстаць на збройны чын.**
**І паўстаюць з сутоняў цьмяных**
**Сыны лясоў, багны, балот,**
**За край свой родны, патаптаны,**
**Няма нідзе ім перашкод.**
**Ды барацьба была няроўнай,**
**Загінуў дзед, і бацька, й сын,**
**Зноў край у цемрадзі астрожнай...**
**Ды зорыць Слуцкі слаўны чын.**
**Мінаlі дні. Краіна ў ранах,**
**Народ урынуты ў спалох,**
**Але чын Случчыны ахвярнай**
**Праменіць шлях да перамог.**

*("Гудзе над Случчу навальніца").*

Алесь Змагар спрабуе свае сілы і ў прозе. Вынікам гэтага стаў зборнік апавяданняў "Лесавікі" (г. Кліўленд, ЗША, 1974 г.), а таксама раман "Случчына ў вагні".

У 1961 годзе напісаў і некалькі драматычных твораў. На фальклорнай аснове — п'еса ў трох дзеях "Каляды" і сцэнічны абразок "Купальле".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



**Фальклорны калектыў "Сваякі", створаны паўгода назад пры мінскім навукова-вытворчым аб'яднанні "Агмень", робіць толькі першыя крокі ў сваёй творчасці. У яго актыве пакуль некалькі выступленняў: перад навучэнцамі СПТВ, на купальскім свяце ў вёсцы Шаршуны Мінскага раёна, дабрачынны канцэрт у дзевятай бальніцы горада Мінска. Удзельнікі калектыву — выпускнікі Мінскага інстытута культуры і кансерваторыі, студэнты — сваю першую канцэртную праграму стварылі на падставе народных традыцый і абрадаў. "Сваякі" — калектыў прафесійны і, вядома, імкнецца знайсці свайго гледача. Па існуючай у нас традыцыі — спачатку за мяжой, потым — у сябе дома. Вось і "Сваякі" збіраюцца ў першае замежнае турнэ — у Польшчу. Будзем спадзявацца, што не абыдуць яны сваёй увагай і беларускіх гледачоў.**

**НА ЗДЫМКУ:** фальклорны калектыў "Сваякі".
Фота **Я. КАЗЮЛІ.**

## УЗІРАЮЧЫСЯ Ў ДАЛЯЧЫНЬ СТАГОДДЗЯЎ

# ШТО ПРЫНЁС ГОМЕЛЮ 1772 ГОД?

Вызваленне ці няволя, далучэнне ці захоп — менавіта ў такім катэгарычным кантэксце некаторыя аўтары імкнуцца аналізаваць падзеі, што адбыліся 220 гадоў назад. 5 жніўня 1772 года ў Пецярбургу была падпісана канвенцыя паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй аб падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Да Расіі адышлі Інфлянцкае, большая частка Полацкага (па правым беразе Зах. Дзвіны), амаль усё Віцебскае, Мсціслаўскае ваяводствы і ўсходняя частка Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства (з Рагачовам, Прапойскам, Чачэрскам і Гомелем). Зразумела, што сёння мы проста павінны глядзець на гісторыю па-новаму. Гэта, аднак, не азначае, што пераасэнсаванне пэўных падзей і фактаў трэба ўвязваць з адмовай ад адной канцэпцыі і з прыняццем іншай.

Што такое канцэпцыя ўвогуле? Ці не ёсць яна загадзя прынятая схема, якую даследчык павінен насычаць фактычным матэрыялам? Ці не лепш проста, без усялякай канцэпцыі адшукаць і прааналізаваць усю разнастайнасць фактаў без іх адбору, а пасля ўжо рабіць высновы? У дачыненні да тэмы сённяшняй нашай размовы пытанне трэба ставіць прыкладна так: што дало кожнаму канкрэтнаму кутку Беларусі (гораду ці мясцовасці) ці, наадварот, чаго іх пазбавіла ўваходжанне ў склад Расійскай імперыі? Бо відавочна, што няможна даць аднолькавы, адназначны адказ ва ўсіх без выключэння выпадках. У адных мясцінах у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай нешта страцілі, у іншых — нешта набылі. Больш таго, страты ці здабыткі для кожнага горада неабходна лічыць дыферэнцыравана для розных сацыяльных, нацыянальных, канфесіянальных груп. Што ж прынёс 1772 год Гомелю?

У "Новым і поўным геаграфічным Слоўніку Расійскай дзяржавы ці Лексіконе...", складанне якога пачалося пад агульнай рэдакцыяй Льва Максімовіча неўзабаве пасля далучэння да Расіі самых усходніх тэрыторый Рэчы Паспалітай, пра Гомель паведамлялася наступнае: "Мястэчка Магілёўскага Намесніцтва ў Беліцкім павеце, у 210 вярстах ад Магілёва, на правым беразе ракі Сож. У ім ёсць земляны замак, абнесены палісадам, тры Грэчаскія царквы, адна Уніяцкая і адна Каталіцкая; паштовы дом і мураваны магазін, раскольніцкая слабада і іх малітоўны храм; бывае ў ім два кірмашы: жыхары вельмі заможныя".

Хто ж былі жыхары Гомеля канца XVIII стагоддзя ў нацыянальным, сацыяльным і канфесіянальным плане? Пасля грунтоўнай публікацыі кандыдата гістарычных навук А.Макушнікава ў газеце "Гомельская праўда" за 1991 год са спасылкамі на унікальны дакумент з архіва Еўдакіма Раманава "Поголовный список Могилёвской губернии города Гомля..." гэтае пытанне ўжо не з'яўляецца загадкай. Непасрэдна пасля далучэння горада да Расіі ў ім жыло 1 909 чалавек, уласна гамельчукамі лічыліся 1 692 чалавекі, астатнія былі прышлымі, нетутэйшымі, якія з"явіліся ў Гомелі ў пошуках заробку). З агульнай колькасці насельніцтва 910 чалавек былі праваслаўнымі мяшчанамі і былымі замкавымі жаўнерамі, 67 чалавек — католікамі шляхецкага саслоўя, 593 чалавекі належалі да ювеліраў і гандляроў-яўрэяў, яшчэ 62 чалавекі — да сем'яў служыцеляў праваслаўных храмаў.

Па нацыянальнаму складу сярод асноўнай часткі насельніцтва Гомеля (мяшчане) пераважалі, як можна меркаваць хоць бы па прозвішчах, праваслаўныя беларусы ("русіны"). Трэба, аднак, сказаць, што рускі ўрад, у прыватнасці, не разглядаў тых жа беларусаў у якасці "адзінакроўных братоў" рускага насельніцтва Расійскай дзяржавы. У "Лексіконе" Льва Максімовіча адзначана, што "народ, які пражывае ў Магілёўскім і Полацкім Намесніцтвах, завецца літвой". І хоць этнічны тэрмін **літва** тлумачыцца тут выключна з пункту гледжання нядаўняй (да 1772 года) дзяржаўна-палітычнай прыналежнасці насельніцтва нагаданых намесніцтваў, сутнасці справы гэта не мяняе: беларусы-"літва" зусім не атаясамліваліся з рускімі — "русінамі", хоць і прытрымліваліся пераважна праваслаўнага веравызнання.

Можна меркаваць, што ніякіх істотных змен у канфесіянальнай сітуацыі ў Гомелі пасля 1772 года не адбылося. Увогуле перыяд з 1772 года да 20-х гадоў XIX стагоддзя адрозніваўся даволі мяккім курсам царскай палітыкі ў адносінах да каталіцкага касцёла і уніяцкай царквы на Беларусі. Аб гэтым сведчаць і чыста гомельскія факты. Так, пасля далучэння да Расіі на працягу 32 гадоў, да 1804-га, у Гомелі існаваў уніяцкі манастыр, прычым, знаходзіўся ён побач з палацам, які пабудаваў новы рускі ўладальнік горада фельдмаршал Пётр Аляксандравіч Румянцаў. Уніяцкі манастыр быў ліквідаваны толькі тады, калі граф Мікалай Пятровіч Румянцаў пачаў рэканструкцыю палаца і ўсёй прылягаючай мясцовасці. У 1822 годзе М.Румянцаў на ўласныя сродкі пабудаваў у Гомелі новы мураваны касцёл, а трохі раней дапамагаў будаваць яўрэйскую сінагогу.

У канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзяў, гэта значыць яшчэ ў той час, калі Гомель і наваколле належалі Рэчы Паспалітай, да пэўнага змянення этнічнай сітуацыі ў гомельскіх мясцінах прычыніліся рускія стараверы. Ужо ў сярэдзіне XVIII стагоддзя пасяленні раскольнікаў літаральна акружалі Гомель: Спасава Слабада (сучасныя вуліцы Пралетарская, Камісарава, Пляханава, Фрунзе), Манастырок (паўднёва-ўсходняя частка сучаснага горада на правым беразе Сожа), Шчакатоўская дача (на яе месцы ў 1777 годзе пачалося будаўніцтва Новай Беліцы, павятовага цэнтра; сёння — Навабеліцкі раён Гомеля); трохі далей ад тагачаснага горада размяшчалася стараверская слабада Новая Мільча, нямала старавераў пасялілася ў вёсцы Прудок (сёння ўсё гэта — межы горада).

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**

## ВЫДАДЗЕНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ




У назіральнага чалавека, які мае дачыненне да прыроды, узнікае мноства самых розных пытанняў, адказы на іх ён шукае ў кнігах. Не выпадкова, што "Біялагічны слоўнік школьніка" (аўтары А. Дарафееў і Г. Іваноў. Выдавецтва "Народная асвета", Мінск, 1993 год), які толькі што з'явіўся ў кнігарнях, становіцца бібліяграфічнай рэдкасцю, хаця тыраж яго каля 50 тысяч экземпляраў. "Слоўнік" купляюць не толькі школьнікі, але і студэнты, і проста цікаўныя людзі.

Кніга дае магчымасць пазнаёміцца з багаццем і разнастайнасцю раслiннага і жывёльнага свету. На яе старонках ёсць звесткі пра маманта і зубра, кіта і марскую карову, мядзведзя і насарога, а таксама пра іншых звяроў, птушак, рэптылій, амфібій, рыб, насякомых. У "Слоўніку" дадзена тлумачэнне амаль чатыром тысячам біялагічных паняццяў і тэрмінаў: аб узроўнях арганізацыі жыцця, будове, развіцці і функцыяніраванні жывых арганізмаў, іх спадчыннасці і зменлівасці, сістэматыцы і распаўсюджанні, узаемасувязях, значэнні ў прыродзе і ў жыцці чалавека. Артыкулам уласцівыя, я б сказаў, лаканічнасць і яснасць зместу, строгасць і лагічнасць энцыклапедычных вывадаў.

Надзвычай важна, што кніга мае добрае мастацкае афармленне, амаль на кожнай старонцы выдатныя, каляровыя малюнкі, што дапаўняюць тэксты матэрыял.

Нягледзячы на ўяўную фрагментарнасць выдання, цяжка перааацаніць яго значэнне як практычнае, так і тэарытычнае. "Біялагічны слоўнік школьніка" — цудоўны падарунак усім, хто любіць прыроду.

**Аляксандр КУРСКОЎ.**

## ВЯРТАННЕ "НАРЫСАЎ..." М. ШЧАКАЦІХІНА

Пад эгідай Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (фінансавана самім таварыствам і галоўным упраўленнем па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь) у выдавецтве "Навука і тэхніка" з'явіўся факсімільны выпуск "Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва", што выйшлі ў друкарні Інстытута беларускай культуры ў 1928 годзе і мелі рэзалюцыю: "Дазваляецца выпусціць у свет. Неадменны сакратар Інстытута Беларускае Культуры В. Ластоўскі".

Асновай нарысаў, як вядома, сталі матэрыялы, распрацаваныя М. Шчакаціхіным пры падрыхтоўцы курса гісторыі беларускага мастацтва, упершыню прачытанага ў 1923—24 навучальным годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Дапоўненыя, у нечым перагледжаныя, яны павінны былі стаць першым томам важнай даследчыцкай працы маладога навукоўца (на час выдання кнігі М. Шчакаціхіну было трыццаць два гады). На жаль, намаганні руплівага аддаджэнца так і не былі завершаны. Арыштаваны ў ліку іншых вядомых вучоных, М. Шчакаціхін улетку 1930 года быў высланы за межы Беларусі і ў 1940 годзе памёр ад туберкулёзу.

"Нарысы..." багата ілюстраваны, пасляслоўе напісаў А. Ліс. Ён жа нагадвае, што гэта іх трэцяе выданне, другое было ажыццёўлена беларускім замежжам.

## МАФІЯ І МАСТАЦТВА

Вядомыя сваімі канцэптуальнымі і зусім неардынарнымі выстаўкамі маладыя мастакі мінскай галерэі "Vita nova" Мікалай Халезін і Васіль Шугалей экспануюцца ў Цэнтры сучаснага мастацтва — самай прэстыжнай выставачнай зале расійскай сталіцы. Тэма выстаўкі: "Мафія ў мастацтве і мастацтва ў мафіі".

Праект, што складаецца з серый карцін, паводле слоў менеджэра галерэі, стаў прадметам абмеркавання нумар 1. Упершыню мастакі адкрыта заявілі аб тым, што сучаснае мастацтва звязана з мафіёзнымі структурамі. Такое "адкрыццё", на думку саміх мастакоў, і стала той "бомбай", якая прымусіла гаварыць аб праекце творчую эліту Масквы, што даўно выбрала Цэнтр для сваіх сходаў.

Дарэчы, Васіль Шугалей і Мікалай Халезін сталі першымі беларускімі мастакамі, чые работы былі выстаўлены на вялікім міжнародным свяце жывапісу — біенале мастацтваў у Стамбуле.

## КАРАЛЕВА ПРЫГАЖОСЦІ

"Каралевай прыгажосці Гродна-93" стала 19-гадовая студэнтка Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Інеса Гардзейка. Ёй жа аддалі свае галасы і гледачы, адзінаддушна прызнаўшы дзяўчыну Міс публікі. Акрамя маральнага задавальнення, каралева спаўна атрымала і матэрыяльнае — ёй уручаны два галоўныя прызы конкурсу: каляровы тэлевізар і пуцёўка ў Італію з адпачынкам на Адрыятыцы.

**Выканком Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка вядомаму беларускаму гісторыку, вучонаму і грамадскаму дзеячу Міхасю Ткачову:**

**Каралёва Д.С. (г.Мсціслаў) — 10 000 рублёў**
**Прыхільнік БСДГ (пажадаў застацца невядомым) — 20 000 рублёў**
**Міраслаў Целушэцкі (г.Беласток) — 46 000 рублёў**
**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі — 100 000 рублёў**
**Рэчыцкі доследна-прамысловы гідролізны завод — 150 000 рублёў**
**Праўленне Белкаапсаюза — 100 000 рублёў**
**Цітовы (в.Шыркі Мсціслаўскага раёна) — 5 000 рублёў**
**Казлоўскія (г.Мсціслаў) — 2 000 рублёў**

**Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г.Мінск, вул. А.Кашавога, 9. Заводскае аддзяленне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код 338, Цэнтральная Рада БСДГ, на помнік М.Ткачову. Даведкі па тэлефоне 46-46-91.**



**Брэсцкі ліцэй — адзін з лепшых у рэспубліцы. Нядаўна на яго базе быў праведзены рэспубліканскі семінар.**

**Новая форма вучобы ўсё больш прыцягвае старшакласнікаў. Ліцэісты значна глыбей вывучаюць школьныя прадметы, знаёмяцца з зусім новымі дысцыплінамі — асновамі менеджмента, псіхалогіяй сямейнага жыцця, вывучаюць інфарматыку і праграміраванне. І хаця нагрузка ў вучняў немалая, яны паспяваюць займацца рытмікай, сур'ёзна вывучаюць мовы, уключаючы беларускую.**

**Выкладаюць у Брэсцкім ліцэі лепшыя педагогі абласнога цэнтра, а падбор навучэнцаў ідзе на конкурснай аснове.**

**НА ЗДЫМКУ: выкладчык Валянціна ВАРВАШЭВІЧ вядзе ў ліцэістаў гісторыю. Часта заняткі праходзяць у форме прэс-канферэнцыі.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

## СПОРТ

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА. На першынстве Еўропы, якое праходзіла ў Балгарыі, беларускія спартсмены заваявалі два медалі. "Серабро" ў А. Кечкі, а "бронза" ў А. Чырыцы.

ГАНДБОЛ. Жаночая зборная Рэспублікі Беларусь правяла адборачны матч першынства Еўропы з нацыянальнай камандай Турцыі і перамагла з лікам 35:20.

ХАКЕЙ НА ТРАВЕ. На адборачных спаборніцтвах да чэмпіянату свету, якія прайшлі ў Маскве, зборная Беларусі заняла трэцяе месца.

САМБА. У Калінінградзе прайшло першынство Еўропы. Тут вызначыліся жанчыны нашай рэспублікі. Залатыя медалі заваявалі А. Гарнашэвіч, Л. Шэйкіна і В. Лізунова.

ФУТБОЛ. Сенсацыйна завяршыліся гульні розыгрышу Кубка Беларусі па футболу. Мінскае "Дынама" не трапіла ў фінал, уступіўшы гродзенскаму "Нёману" па суме дзвюх сустрэч.

З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ

## ПАДУШАЧКІ




Сцялю, сцялю пасцелечку,
Сцялю пухавую,
Каго люблю, каго люблю,
Таму падарую.

Янку люблю, Янку люблю,
Янку пацалую,
Пуховую падушачку
Яму падарую.

На пуховай падушачцы
Добра паляжаці,
З маладою Марылькаю
Добра жартаваці.

Жыта маё веянае
Сыпалася з меха,
Жонка ж мая маладая,
Бярэць мяне уцеха.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 688. Падпісана на друку 10.05.1993.